ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №85 (4443) СУБОТА, 22 кастрычніка 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

## НГ-ІНФАРМ

### ВЕСТКІ

### ДЗЕНЬ ВЫКЛАДЧЫКА

По ініцыятыве ЮНЕСКО 5 кастрычніка штогод будзе адзначацца як Міжнародны дзень выкладчыка. У гэты дзень у 1966 годзе Міжнародная арганізацыя працы і ЮНЕСКО прынялі сумесную рэкамендацыю аб умовах працы выкладчыкаў.

### ПАДРУЧНІК НАПІСАЎ НАСТАЎНІК

Настаўнік геаграфіі пастаўскай сярэдняй школы № 1, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі Ігар Пракаповіч напярэдадні навучальнага года выпусціў уласны падручнік "Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна".

### ДЛЯ СТАЖЫРОЎКІ Ў ГЕРМАНІІ

Для беларускіх вучоных, выпускнікоў ВНУ і студэнтаў нямецкая служба акадэмічных абменаў аб'явіла конкурс на атрыманне стыпендый для стажыроўкі ва універсітэтах Германіі.

### ГАНАРОВАЕ ЛІДЭРСТВА БРЭСТЧЫНЫ

За першае паўгоддзе ў Беларусі нарадзілася 56805 дзяцей. Лідэрам сярод абласцей стала Брэсцкая, дзе з'явілася на свет 9322 малышы. Самы нізкі паказчык у Гродзенскай вобласці — 6962 дзіцяці.

### ГАСПАДЫНЯ СЯДЗІБЫ НА "ЎРА!"

Даволі высокі конкурс у ПТВ Жлобіна быў адзначаны сёлета — 3 прэтэндэнты на месца. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца спецыяльнасць "Гаспадыня сядзібы".

Міхась АНІСЕНКА.

ПЕДАГОГІКА БЕЗ МЕЖАЎ

## НЯХАЙ ВАС НЕ ЗДЗІЎЛЯЕ ВУСАТЫ ТРАМВАЙ

"Вусаты трамвай. Вы бачылі такі? Як маляваць кветку, у якой схавалася радасць?" — на гэтыя і шмат іншыя дзіцячыя пытанні шукалі адказ удзельнікі семінара "Выкарыстанне Тэорыі Рашэння Вынаходніцкіх Задач (ТРВЗ) для развіцця творчага ўяўлення дашкольнікаў", які з 5 па 12 кастрычніка працаваў на базе Мінскага педвучылішча №1 і разлічаны на 48 акадэмічных гадзін.

Семінар праводзіў удзельнік сістэмы "ТРВЗ-ШАНЦ", навуковы кіраўнік Ульянаўскага метадычнага цэнтра на базе дашкольнай установы №242, настаўнік-метадыст Ульянаўскага педагагічнага вучылішча Таццяна Аляксандраўна Сідарчук, якая мае аўтарскую праграму выхавання дзяцей з выкарыстаннем ТРВЗ у дашкольнай установе. Семінар у Мінску для прафесійнага выкладчыка ТРВЗ Т.А.Сідарчук ужо дзевятнаццаты. Да гэтага яна праводзіла семінары ў Нарыльску, Тальяці, Маскве, мае запрашэнні ў Германію.

50 слухачоў семінара — выкладчыкі Мінскага педвучылішча, выхавацелі і метадысты дзіцячых садоў Мінска і іншых гарадоў Беларусі — з цікавасцю вывучалі прапанаваныя нетрадыцыйныя метады і тэхналогіі развіцця творчага ўяўлення дзяцей-дашкольнікаў. Новыя педагагічныя тэхналогіі даюць магчымасць фарміравання дыялектычнага мыслення дзяцей трохгадовага ўзросту, бо менавіта з трох да сямі год дзіця задае пытанні з хуткасцю 31 пытанне ў гадзіну. Сёння нас не задавальняе вопыт выхавання маленькіх пакутнікаў аджыўшай сістэмы — механічных выканаўцаў. Грамадству патрэбна нацыянальна-свядомая асоба, асоба творчая, цікаўная... ТРВЗ і РТУ — метады адкрываюць магчымасці вучыць і выхоўваць не па шаблону, а творча, цікава, развіваючы індывідуальныя здольнасці кожнага дзіцяці. Спадзяемся, што ТРВЗ прыйдзе ў беларускі дзіцячы садок. Хто здолее разбіць састарэлыя стэрэатыпы мыслення ў самім сабе, той навучыць сваіх выхаванцаў вынаходніцтву, навучыць бачыць цуд у звычайным, а дзякуючы фантазіі самае неверагоднае стане рэчаіснасцю.

Дырэкцыя "ТРВЗ—ШАНЦ" знаходзіцца ў Санкт-Пецярбурзе, гэта структура раўнапраўных партнёраў, якія маюць уласныя методыкі рашэння задач ў розных галінах дзейнасці, распрацаваныя на базе ТРВЗ.

У Мінску праблемамі ТРВЗ плённа займаюцца Хаменка М.М. (ТРВЗ для школьнікаў, студэнтаў і прафесіяналаў, арганізацыя семінараў для работнікаў адукацыі). Гін А.А. (педтэхніка ТРВЗ).

**По ўсіх пытаннях, звязаных з ТРВЗ, і з любым удзельнікам сістэмы можна звязацца праз мінскае прадстаўніцтва сістэмы "ТРВЗ — ШАНС".**

**220020, Мінск, а.с. 24, або 246012, Гомель, а.с.65.**

Зоя ДУДАРЭНКА,
загадчыца метадычнага кабінета мінскага педвучылішча №1.



## НГ-ІНФАРМ

## АЛЯКСАНДР ФЯДУТА НА ЖУРФАКУ

"Я не цэнзар", — заявіў начальнік Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Фядута на сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі факультэта журналістыкі БДУ, што адбылася 11 кастрычніка. Праходзіла яна ў форме своеасаблівай прэс-канферэнцыі, якую пачаў невялікай прамовай сам Аляксандр Іосіфавіч. Дарэчы, аб ведах журналістаў у галіне філалогіі, як былы настаўнік, спадар Фядута, па яго словах, быў не вельмі высокага меркавання. І, напэўна, каб пераканацца ў гэтым яшчэ раз, правёў невялічкі тэст: прадэкламаваў радкі верша А.Талстога і прапанаваў назваць аўтара да заканчэння сустрэчы. Аднак, не прайшло і паўхвіліны, як імя рускага класіка было названа, што значна падняло журфак у вачах шаноўнага Аляксандра Фядуты.

Размова праходзіла ў добразычлівай абстаноўцы, часам злёгку падаграваемай вострымі, злабадзёнымі пытаннямі кшталту: "Чаму на ролю прэзідэнцкай газеты выбрана "Звязда"?", "Ці будзе цэнзура ў дзяржаўных выданнях?", "Калі вернецца ў эфір "Беларуская маладзёжная"?" і інш. Спадар Фядута адказаў, што ніякай палітычнай цэнзуры ў дзяржаўных выданнях не будзе, пытанне з "БМ" вырашыцца не пазней як праз два тыдні, а прэзідэнцкай газетай будзе "Звязда" таму, што "яна самая інтэлігентная" з усіх рэспубліканскіх выданняў.

Шмат пытанняў было зададзена, на большасць атрыманы адказы. У завяршэнне Аляксандр Іосіфавіч паабяцаў дапамагаць журфаку.

У час прэс-канферэнцыі, на пытанне, кім ён сябе бачыць праз 5 гадоў у выпадку, калі пасаду прэзідэнта зойме не Аляксандр Лукашэнка і не яго саратнік, спадар Фядута ні на хвіліну не задумаўся: "У школу вярнуся, кваліфікацыю я яшчэ не згубіў, або ў газету пайду працаваць". Пасля канферэнцыі я паспрабаваў высветліць у якой газеце, магчыма, будзе працаваць сённяшні куратар сродкаў масавай інфармацыі.

— У якую возьмуць, — з усмешкай адказаў Аляксандр Іосіфавіч.

Калі я ўдакладніў наконт "Настаўніцкай" (А.Фядута педагог), начальнік Упраўлення такую версію выключаць не стаў.

Сяргей ПРОТАС.

## У першую чаргу ажыццявіць адрасную абарону найменш абароненых слаёў насельніцтва

### ВЫСТУПЛЕННЕ ПРЭЗІДЭНТА А.ЛУКАШЭНКІ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА 17 КАСТРЫЧНІКА

Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя дэпутаты!

Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета!

Аналіз сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, балансу даходаў і расходаў насельніцтва паказаў, што, нягледзячы на праводзімую палітыку жорсткага кантролю за эканамічным абгрунтаваннем фарміруемых на прамысловых прадпрыемствах і ў гандлі свабодных аптова-закупачных і рознічных цэн на асноўныя харчовыя тавары, у верасні і кастрычніку ідзе пастаянны рост цэн, выкліканы негатыўнымі з'явамі, што адбываюцца ў эканоміцы. Адным з фактараў, якія стымулююць рост цэн, з'яўляецца зніжэнне курса беларускага рубля адносна замежнай валюты. З 1 жніўня курс долара павялічыўся больш чым у два разы. Растучы курс долара, які суправаджаецца павелічэннем сусветных цэн на завозімыя энерганосьбіты і сыравіну, выклікае пастаяннае іх падаражанне. Так, за бягучыя тры месяцы цэны на дызпаліва ўзраслі ў 3,7 раза, мазут — у 4,3 раза, газ — у 3 разы, электраэнергію — у 3,2 раза. Гэта прывяло да павышэння закупачных цэн на жывёлу на 76 працэнтаў, малако — на 33, птушку — на 50 працэнтаў. У параўнанні з 1 жніўня бягучага года рознічныя цэны на мясныя прадукты павялічыліся ў сярэднім на 60 працэнтаў. Аказваюць уплыў на рост цэн і высокія працэнтныя стаўкі за карыстанне банкаўскімі крэдытамі, якія прадастаўляюцца харчовым і мясамалочным прадпрыемствам.

Ацэнка эканамічнага становішча рэспублікі і жыццёвага ўзроўню насельніцтва паказвае, што неабходна прыняць шэраг мераў па сацыяльнай абароне насельніцтва. Пры гэтым трэба ўлічваць, што пры бесперапынным спадзе вытворчасці, росце інфляцыі, дэфіцыце бюджэту практычна немагчыма ажыццявіць поўную 100-працэнтную кампенсацыю страт насельніцтва ад росту цэн.

Вось чаму Прэзідэнт і ўрад лічаць неабходным рэгуляваць даходы насельніцтва так, каб у першую чаргу ажыццявіць адрасную абарону сацыяльна найменш абароненых слаёў — інвалідаў, непрацуючых пенсіянераў, мнагадзетныя сем'і, студэнтаў і навучэнцаў, а таксама нізкааплатных работнікаў.

Сёння аплата працы работнікаў у бюджэтных галінах, у першую чаргу ўрачоў, настаўнікаў, ваеннаслужачых, значна ніжэйшая, чым аплата ў вытворчай сферы. Таму, нягледзячы на ўсе фінансавыя цяжкасці, нягледзячы на дэфіцыт бюджэту, я падпісаў сёння ўказ аб павелічэнні мінімальнай заработнай платы ў 2 разы, адначасова павялічыўшы стаўку 1-га разраду да 22 тысяч рублёў і даплаты да тарыфных ставак ад 1-га да 7-га разраду тарыфнай сеткі. У выніку аплата па першаму разраду складзе 32 тысячы рублёў. Мы захоўваем штомесячныя кампенсацыйныя выплаты непрацуючым пенсіянерам, а таксама ўсім тым пенсіянерам, хто працуе ў сельскай гаспадарцы, дзецям, студэнтам.

Устанаўліваем стыпендыю студэнтам ВНУ ў памеры 130 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Гэта 26 тысяч рублёў.

Плюс да гэтага 8 з паловай тысяч рублёў кампенсацыйных выплат, што складае 34,5 тысячы рублёў у сярэднім. Будуць павялічаны памеры пенсій, дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, дапамог па беспрацоўю. Гэтыя меры дадуць магчымасць крыху палепшыць сацыяльнае становішча пералічаных катэгорый. Вядома, рост фонду спажывання справакуе і дадатковы рост цэн, але ён будзе значна ніжэйшы за ўзровень мераў сацыяльнай абароны.

Складаная фінансавая сітуацыя ў сельскай гаспадарцы. Гэта выклікана як недаборам прадукцыі ў выніку засухі, так і парушэннем парытэту цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю. Не поўнасцю мы разлічыліся яшчэ з сялянамі і за пастаўленыя дзяржаве збожжа, бульбу, лён. Таму ў мэтах паляпшэння фінансавага становішча гаспадарак і эфектыўнай падрыхтоўкі аб'ектаў да зімы прынята рашэнне аб выдзяленні з рэспубліканскага бюджэту на гэтым этапе 30 мільярдаў рублёў. Падкрэслю, што гэтыя сродкі адшуканы з вялікай цяжкасцю за кошт скарачэння іншых расходаў, таму яны ні ў якім разе не павінны быць накіраваны на праяданне. Яны павінны быць накіраваны па прызначэнню, і кіраўнікі гаспадарак будуць несці персанальную адказнасць за іх выкарыстанне. З гэтай мэтай мной ужо дадзены ўказанні Кантрольнай службе Адміністрацыі Прэзідэнта і Міністэрству фінансаў.

Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь! Ведаю, што крытыкаваць мяне будуць. Але хацелася б даць адну параду крытыкам як справа, так і злева. Крытыкам справа, якія будуць папракаць Прэзідэнта за адступленне ад манетарысцкіх прынцыпаў, параю паспрабаваць пракарміць сваіх сыноў на цяперашнюю студэнцкую стыпендыю. Крытыкам злева, якія і пасля гэтага будуць скардзіцца на недастатковы ўзровень сацыяльнай абароны, я парэкамендаваў бы паспрабаваць знайсці грошы для стопрацэнтнай кампенсацыі, збалансаваўшы пры гэтым бюджэт. Грошы, якія ўрад адшукаў, у масе сваёй не надрукаваны, а зароблены. Таму я з чыстым сумленнем і спакойнай душой змог падпісаць той указ, аб якім ідзе размова. Спадзяюся, ён знойдзе разуменне і ў вас, і ў народзе.

Дзякую за ўвагу.



### ФОТАФАКТ

### АД СЕСІІ ДА СЕСІІ ЖЫЦЬ СТУДЭНТАМ ВЕСЕЛА. ЗАЎТРА СТАНЕ ВЕСЯЛЕЙ

У слушнасці гэтых "крылатых слоў" наўрад ці засумняваешся, гледзячы на ўсмешлівыя, гарэзлівыя твары добра прыкінутых (даруйце за студэнцкі жаргон) дзяўчат і юнакоў у скураных і імпартовых куртках.

Яны сабраліся 14 кастрычніка на пляцы Незалежнасці Мінска не на праменад-шоу, не на рэпетыцыю гуртка тэатральнай самадзейнасці, не на КВЗ і нават не на студэнцкі капуснік. Такім вось своеасаблівым чынам маладыя людзі вырашылі заявіць уладам пра сваё бядотнае матэрыяльнае становішча, пра тое, што іх стыпендыі хапае толькі на хлеб і малако.

Пажартавалі, гулліва пашпацыравалі па праспекце Скарыны, заявілі пра сваё жаданне атрымліваць штомесяц ад дзяржавы "100 баксаў на "рыла".

Цяжка сказаць, ці будзе поўнасцю задаволена іх заяўка, але падстава для яшчэ большай весялосці ў студэнтаў ёсць: нягледзячы на цяжкія ўмовы, у якіх апынулася краіна, урад шукае сродкі, каб студэнцкай стыпендыі хапіла не толькі на хлеб і малако.

## ВЕДЫ, ІНТЭЛЕКТ — ГАЛОЎНЫ КАПІТАЛ ДЗЯРЖАВЫ

**Гэты артыкул — як адкрытае пісьмо Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку і Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь — быў падрыхтаваны да друку яшчэ да выступлення Прэзідэнта на сесіі парламента 17 кастрычніка, у якім ён сказаў пра разуменне праблем аплаты працы работнікаў бюджэтных галін, у тым ліку і настаўнікаў. Мяркуем, што на прапановы, выказаныя аўтарам артыкула, звернуць увагу і народныя выбраннікі, ад пазіцыі якіх у многім залежыць забеспячэнне прыярытэтнасці развіцця адукацыі.**

Канец XX стагоддзя багаты на шматлікія катаклізмы, катастрофы, аварыі і іншыя ўзрушэнні. На нас абрушваецца велізарная колькасць бед, адна страшней за другую.

Назапасілася мноства дакументаў, у якіх расказваецца аб загубленых рэках, азёрах, выпаленых і высечаных лясах, загубленых палях, лугах, пашах і поймах. Асобныя гарады ператвораны ў газавыя "душагубкі". Цэлы шэраг рэгіёнаў Беларусі стаў "мёртвай зонай" пасля чарнобыльскай трагедыі. Мы даўно дыхаем не жыватворным кіслародам, п'ём не крыштальна чыстую ваду, харчуемся не натуральнай ежай, жывём не ў экалагічна чыстай прасторы.

Прычынай усяму гэтаму — невуцтва... Яно ўсясільнае і ўсёпранікаючае. Невуцтва прасякнула ўсе сферы нашага жыцця. Шэрасць і бяздарнасць, як іржа, раз'ядаюць наша грамадства. У краіне пануюць бескультур'е, бездухоўнасць. Працягваецца маральна-этычнае падзенне народа. І асабліва разбэшчваецца, растляваецца, разлагаецца моладзь. У яе асяроддзі добра прыжываюцца ракавыя вірусы эгаізму, індывідуалізму, хціўства, накапляльнасці, мяшчанства.

Відавочна, што без выратавання дзяржаўнай маральнасці нам не выратаваць самую дзяржаўнасць. Мы не вырашым ні эканамічных, ні сацыяльных праблем, калі не ўзнімем культуру, адукацыю і духоўнасць народа. І хто гэтага не разумее, той не жадае кардынальных змен у нашым грамадстве.

Працэсы, якія адбываліся ў нашай краіне, аб'ектыўна патрабуюць апераджальнага развіцця адукацыі, вызначэння яе ў дзяржаўным маштабе як найпершага прыярытэту, распрацоўкі і рэалізацыі канкрэтных дзяржаўна-грамадскіх мер, якія б забяспечылі ўстойлівасць гэтага прыярытэту.

"...Каб мець поспех у сусветнай эканоміцы, канкурэнцыя ў якой пастаянна расце, мы павінны мець адукаваную рабочую сілу, якая б па сваіх ведах не ўступала нікому. Настаў час выпрацаваць дакладныя нацыянальныя задачы і мэты ў галіне адукацыі, мэты, якія зробяць нас канкурэнтаздольнымі ў сусветных адносінах". Гэта вытрымка з сумеснай заявы прэзідэнта ЗША і губернатараў штатаў — удзельнікаў нарады па адукацыі, якая адбылася ва універсітэце штата Віргінія ў час прэзідэнцтва Р.Рэйгана.

Удумаемся, высокаразвітая, багацейшая краіна, узровень пастаноўкі адукацыі ў якой вельмі высокі, і там з першачарговых дзяржаўных задач прэзідэнт абвяшчае развіццё адукацыі!

У нас жа за ўсё існаванне былога Саюза, незалежнай Рэспублікі Беларусь ніводзін кіраўнік дзяржавы, Вярхоўнага Савета, урада не абвяшчаў прыярытэтнасць развіцця адукацыі. У выніку мы атрымалі тое, што маем.

Таму работнікі галіны з вялікай надзеяй глядзяць на дзеянні першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі па рэфармаванні адукацыі.

У прэамбуле Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" запісана: "Рэспубліка Беларусь забяспечвае прыярытэтнае развіццё адукацыі, адпаведныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы функцыянавання гэтай сферы..." А на справе? Ні ў канкрэтных справах, ні ў дзяржаўных рашэннях, ні ў перспектыўных праграмах усё гэта ніяк не знаходзіць адлюстравання.

Мяркуйце самі. У 1991 г. на адукацыю было асігнавана толькі 6,3 працэнта, у 1992 г. — 6,1 працэнта, у 1993 г. — 5,5 працэнта дзяржаўнага бюджэту, хоць законам (артыкул 37) прадугледжана дзяржаўнае фінансаванне ў размеры не менш як 10 працэнтаў ад нацыянальнага даходу Рэспублікі Беларусь з магчымасцю павелічэння за кошт звышпланавых сродкаў бюджэту.

Астаткавы прынцып фінансавання галіны няўхільна цягне адукацыю ў бездань хаосу, крызісу. Установы адукацыі ледзь існуюць. Ды і ці магло быць інакш, калі на будаўніцтва аднаго квадратнага метра свінарніка (у былым Саюзе) дзяржава затрачвала 43 рублі, а на будаўніцтва школы адпаведна 37 рублёў!

Між тым за мяжою ўкладваць грошы ў развіццё адукацыі лічыцца самай выгаднай справай. Прыклад таму такія краіны, як ЗША, Японія, Паўднёвая Карэя, ФРГ, Швецыя, Тайвань і іншыя, якія дасягнулі небывалага эканамічнага росквіту, узняцця жыццёвага ўзроўню народа за кошт каласальных укладаў сродкаў у развіццё адукацыйнай сістэмы сваіх краін.

Ва ўсім свеце расце прэстыж ведаў, бо веды, інтэлект — самы дарагі капітал. Калі ж, нарэшце, гэта зразумеем і мы?!

Не менш катастрафічнае становішча ў нашым грамадстве і носьбіта ведаў, настаўніка, яго матэрыяльнага і сацыяльнага статуса. У нас на словах настаўнік узняты на такую вышыню, аб якой не марылі нават класікі марксізму-ленінізму. А на самай справе ён быў амаль што ізгоем грамадства. Сярэдняя заработная плата настаўніка ў параўнанні з сярэдняй заработнай платай па народнай гаспадарцы склала ў 1883 — 84 гг. 241,8 працэнта (і гэта пры цары і памешчыках!), у 1940 г. — 100 працэнтаў, у 1960 г. — 87,7 працэнта, у 1970 г. — 88,6 працэнта, у 1980 г. — 80,5 працэнта, у 1990 г. — 59,5 працэнта, у 1991 г. — 58,3 працэнта.

У нашай Рэспубліцы сярэдняя заработная плата работнікаў адукацыі ў параўнанні з сярэдняй заработнай платай у народнай гаспадарцы склала ў 1990 г. — 72,7 працэнта, у 1991 г. — 85,5 працэнта, 1992 г. — 87,3 працэнта, у 1993 г. — 83,2 працэнта.

У ліпені гэтага года сярэдняя заработная плата рабочых і служачых была 872.191 рубель, а настаўніка — 708 тысяч (81,1 працэнта) (і гэта з улікам адпускных, работы на 1,5 і больш ставак), у жніўні сярэдняя заработная плата ў народнай гаспадарцы склала 103.152 рублі, а ў адукацыі — 64.458 рублёў (64,4 працэнта).

Цяпер па заработнай плаце работнікі адукацыі знаходзяцца на 17 месцы сярод усіх катэгорый працуючых. Так дзяржава ацэньвае нашу працу. У той жа час мінімальная спажывецкая карзіна ацэньваецца коштам у 108 тысяч рублёў на аднаго чалавека сям'і, якая складаецца з 4-х чалавек.

Большасць настаўнікаў знаходзіцца за рысай беднасці, ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі.

Не вырашана жыллёвая праблема гарадскога і сельскага настаўніка. У Брэсцкай вобласці каля 3 тысяч работнікаў адукацыі маюць патрэбу ў жыллі, а ў Брэсце — 414 настаўнікаў (звыш 10 працэнтаў ад усяго саставу) стаяць на чарзе для атрымання кватэр.

Не лепшае ў гэтых адносінах становішча і ў іншых абласцях.

У нашай краіне няма адпрацаванай сістэмы аздараўлення работнікаў адукацыі. Практычна адзін раз у жыцці настаўнік атрымлівае пуцёўку ў санаторый або дом адпачынку. Ён даведзены да крайнасці, сацыяльна не абаронены.

Як пераканаўча, своечасова сёння гучаць словы вялікага Мікалая Рэрыха, якія ён выказаў у кнізе "Шамбала" ў артыкуле "Гуру-Настаўнік" яшчэ ў 1935 г.: "Сорам краіне, дзе настаўнік жыве ў беднасці і галечы. Сорам тым, хто ведае, што дзяцей іх вучыць бядотны чалавек. Не толькі сорам народу, які не клапоціцца аб настаўніках будучага пакалення, але знак невуцтва".

Адраджэнне нацыянальнай культуры, уздым узроўню адукаванасці, маральнасці, духоўнасці, наша будучыня, магутнасць і незалежнасць нашай дзяржавы ў многім залежыць ад становішча настаўніка ў грамадстве. Ён сёння мае патрэбу ва ўвазе і клопаце з боку дзяржавы, народа, народнай улады. І калі мы сапраўды хочам радыкальных змен у нашым жыцці, то павінны надаць адукацыі прыярытэтную ролю, прыняць усялякія меры, каб узняць аўтарытэт і прэстыжнасць настаўніцкай прафесіі, прэстыжнасць ведаў.

У сувязі з вышэйвыкладзеным прашу Вас прыняць рашэнне па наступных пытаннях:

1. У неадкладным парадку распрацаваць і прыняць пакет законаў, паасобку рэгламентуючых школьную адукацыю, прафесійнае і сярэднеспецыяльнае навучанне, дзейнасць вышэйшай школы і навуковых устаноў (законы аб прыярытэтнасці адукацыі ва ўсіх сферах жыцця, аб навучальнай установе, аб пераводзе адукацыі на новую эканамічную мадэль, аб статусе дырэктара школы, аб сям'і і іншае).

Скарэкціраваць раней прынятыя законы аб адукацыі, прывесці іх у адпаведнасць з існуючымі дакументамі ЮНЕСКО і ААН.

2. Распрацаваць да канца 1994 г. і рэалізаваць на працягу бліжэйшых 2 — 3 гадоў дзяржаўныя мэтавыя комплексныя праграмы "Дзяцінства", "Сям'я", "Таленавітыя і адораныя дзеці", паляпшэння выхавання падрастаючага пакалення, духоўнага адраджэння нацыі, павышэння прэстыжнасці настаўніцкай прафесіі, прэстыжнасці ведаў, аздараўлення работнікаў адукацыі, сацыяльнай абароны педработнікаў.

а) Стварыць у кожным раёне, горадзе 30 — 40-працэнтны (ад фонду заработнай платы) фонд матэрыяльнага заахвочвання работнікаў адукацыі і па меры аздараўлення фінансавага становішча ў краіне штогод яго павялічваць.

б) Выплачваць усім работнікам адукацыі дапамогу на аздараўленне і лячэнне ў памеры службовага акладу.

в) Увесці істотныя даплаты:

— за класнае кіраўніцтва,

— за навукова-даследчую работу і наватарства,

— за праверку сшыткаў,

— на падзешаўленне харчавання.

Аплачваць усю пазакласную і пазашкольную работу, праводзімую настаўнікам.

г) У сувязі з пераходам на рынычныя адносіны органам мясцовай улады адшукваць магчымасці даплаты да заработнай платы работнікаў адукацыі за кошт мясцовага бюджэту.

д) З мэтай стварэння аптымальных умоў для педработнікаў:

— перавесці ў бліжэйшыя 5 — 6 гадоў усе школы на аднazменную работу;

— адмовіцца ад будаўніцтва школ-гігантаў;

— стварыць спецыялізаваныя прадпрыемствы для работы падлеткаў 14 — 17 гадоў з колькасцю рабочых месц не менш як 200;

— давесці напаўняльнасць класаў да 25 у школах І ступені, 20 чалавек у школах І — ІІ ступені, у групах дзіцячых садоў не болей 15 — 20;

— устанавіць дзяржаўны нарматыў затрат на навучанне аднаго вучня на працягу навучальнага года. Адпаведна павялічваць яго ў сувязі з павышэннем цэн;

— перавесці ўсе ўстановы адукацыі на новы механізм гаспадарання, прадаставіць ім поўную фінансавую самастойнасць і г.д.

е) Усім тэхнічным работнікам устаноў адукацыі ўстанавіць заработную плату ў размеры 5 — 6 мінімальных заработных плат і штогадовы водпуск не менш як 24 рабочыя дні.

ж) Гарантаваць педработнікам рэалізацыю канстытуцыйнага права на жыллё і паляпшэнне жыллёвых умоў:

— перадаць дзяржаўныя кватэры ў асабістую ўласнасць работнікам адукацыі;

— устанавіць 50-працэнтную даплату за камунальныя паслугі;

— забяспечыць частковае або поўнае пагашэнне пазыкі на кааператыўнае і індывідуальнае жыллё, гарантаваць пазачарговае выдзяленне зямельных участкаў і будаўнічых матэрыялаў індывідуальным забудоўшчыкам;

— дадаткова да фондаў выканкамаў мясцовых Саветаў знаходзіць іншыя магчымасці для паляпшэння кватэрных умоў работнікаў галіны;

— 10 працэнтаў ад капітальных укладанняў на адукацыю накіроўваць на развіццё сацыяльнай сферы: будаўніцтва жылля, інтэрнатаў для маладых спецыялістаў, базы адпачынку, аплату ведамасных інтэрнатаў, арганізацыю культурна-масавай і выхаваўчай работы і іншае.

3. Усім органам мясцовай улады прызнаць прыярытэтнасць адукацыі і весці ў сувязі з гэтым адпаведную палітыку.

4. Дабіцца з 1 студзеня 1995 года выканання артыкула 34 "Закона аб адукацыі" ў поўным аб'ёме.

5. Стварыць мясцовыя фонды адукацыі за кошт пэўнага працэнта адлічэнняў ад усіх прадпрыемстваў рэгіёнаў.

Прыняць такія заканадаўчыя акты, каб вынікавае спонсарства над установамі адукацыі было выгадным для прадпрыемстваў, кааператываў, асацыяцый, МП, СП і да т.п.

6. Стварыць пры кожным прадпрыемстве, ва ўстановах, арганізацыях групы падтрымкі адукацыі. Прыняць наконт гэтага адпаведны дзяржаўны дакумент.

7. Устанавіць дзяржаўны і недзяржаўны (камерцыйны) пенсійны фонд для ўсіх груп насельніцтва.

8. Бягучы і капітальны рамонт устаноў адукацыі ўскласці на органы мясцовай улады.

І.ДРЫГАЙЛОЎСКІ,
народны дэпутат Брэсцкага абласнога Савета народных дэпутатаў, дырэктар сярэдняй школы №17 Брэста.

# НГ-ІНФАРМ

НОВАЕ Ў АДУКАЦЫІ

## ЦІ СТАНЕ РАМЕСНІК НА НОГІ?

**Крыніцай нацыянальнай культуры, адлюстраваннем яе самабытнасці і непаўторнасці, мудрасці, таленту і фантазіі заўсёды было рамесніцтва. Непаўторныя вырабы ўмельцаў-рамеснікаў стваралі гісторыю нацыі, доўжылі на стагоддзі народныя традыцыі.**

Якім бачыцца адраджэнне рамесніцтва калектыву Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі? Гэтай тэме прысвечана гутарка нашага карэспандэнта Алы Клюйко з прарэктарам інстытута Эдуардам **КАЛІЦКІМ** і Ларысай **ВАЛЧАНКОВАЙ**, загадчыцай сектара бесперапыннай адукацыі.

**— Можа варта пачаць нашу размову менавіта з гісторыі ўзнікнення рамесніцтва?**

**Э.КАЛІЦКІ:** — Паняцце рамесніцтва па нашай недасведчанасці мы часцей звязваем з рамеснымі вучылішчамі, якія ўзніклі ў нас у 1940 годзе і існавалі да 1958 года, пакуль іх не перайменавалі ў прафесійна-тэхнічныя. У рамесныя прымалі падлеткаў з сямі гадамі адукацыі і давалі невысокую, сярэдняга ўзроўню рабочую кваліфікацыю. Як бачна, адбылася падмена асноўнага сэнсу паняцця рамесніцтва, якое захавалася ў нашай свядомасці да гэтай пары. На самай справе, рамеснік — чалавек, які з дапамогай простых прылад працы і высокага майстэрства стварае вырабы, самабытныя і індывідуальныя.

У сярэднявеччы, калі ўзнікла рамесніцтва, рамеснікі выраблялі ўсе тыя прадметы, якія былі патрэбны іх заказчыкам. Але з развіццём індустрыі, машыннай вытворчасці, якая дала магчымасць выпускаць прадукцыю ў масавай колькасці, што значна знізіла яе кошт, патрэба ў ручной працы паступова стала знікаць. І ўжо на рубяжы XIX — XX стагоддзяў рамесніцтва перастала існаваць у большасці краін.

**— А ці адрадзілася рамесніцтва сёння за мяжой?**

— Я неаднаразова наведваў Германію і адзначу, што там рамесніцтва вельмі развіта. Гэта пацвярджаюць наступныя лічбы: 4,6 млн. чалавек працуюць у Германіі рамеснікамі, існуе 725 тысяч рамесных прадпрыемстваў, дзе працуюць ад аднаго да дзесяці чалавек, пералік рамесных прафесій складае 126 назваў. У краіне рамесніцтва ахоўваецца спецыяльнымі законамі ад магутнай індустрыі, існуюць і падатковыя льготы.

Рамеснікі ў Германіі займаюцца ўсімі відамі вытворчасці: выконваюць індывідуальныя заказы насельніцтва альбо буйнога прадпрыемства. Яны вырабляюць прадукты харчавання, будуюць дамы, ствараюць ювелірныя ўпрыгожванні, шыюць адзенне, карацей кажучы, усё тое, у чым узнікае патрэба. Працаваць на канкрэтны заказ — гэта і адрознівае рамесніка ад індустрыі.

**— Праблема адраджэння рамесніцтва паўстала і перад Беларуссю...**

— Само жыццё вымусіла нас звярнуцца да гэтай справы. Можна вызначыць шэраг палітычных і эканамічных фактараў узраджэння і развіцця рамесніцтва ў Беларусі.

У першую чаргу мы звязваем яго з нацыянальнай культурай, без якой не можа існаваць незалежная дзяржава. Развіццё народных рамёстваў, як адна з складовых частак рамесніцтва, павінна ўзраджаць нашы нацыянальныя карані, каб узрасціць дрэва нашай роднай культуры. Акрамя гэтага, цывілізаваная рыначная эканоміка, да якой мы імкнемся, патрабуе спалучэння індустрыі з рамесніцтвам, што ў выніку не дазваляе панаваць манаполіі.

Сацыяльныя праблемы, якія сёння ўзніклі ў нашым грамадстве, таксама падштурхоўваюць працэс адраджэння рамесніцтва. Магчымасць прыцягнуць да рамесных прафесій беспрацоўных, людзей з адхіленнямі здароўя, крымінагенную частку насельніцтва, безумоўна, дазваляе станоўча вырашыць праблему занятасці. Наш рынак, яшчэ неўтаймаваны, парадзіў і ўродлівых прадпрымальнікаў, дакладней, спекулянтаў, якія не займаюцца вытворчасцю, а толькі перапрадаюць чужую працу. Гэтыя людзі выбралі такі шлях узбагачэння не толькі таму, што ён вельмі просты, але і таму, што яны іншага шляху прадпрымальніцтва і не ведаюць.

Сёння ўзнікла вострая неабходнасць арганізаваць падрыхтоўку рамеснікаў, што не супярэчыць тэндэнцыям сучаснага развіцця нашага грамадства, а садзейнічае ўзраджэнню нацыянальнай культуры і вырашэнню шэрагу сацыяльных і эканамічных задач.

**— Якія відавочныя перавагі рамесніцтва над індустрыяй вы маглі б назваць?**

**Л.ВАЛЧАНКОВА:** — Самую галоўную перавагу адчуе сама дзяржава, бо рамесніцтва не патрабуе доўгатэрміновых інвестыцый, рамеснік можа працаваць у невялікім памяшканні, выкарыстоўваць простыя, але эфектыўныя прылады працы. Рамеснік працуе на канкрэтнага заказчыка, што толькі станоўча ўплывае на якасць яго вырабаў, якія розняцца і сваёй разнастайнасцю. Толькі дзякуючы рамесніцтву кожны чалавек можа выказаць сваю непаўторнасць, арыгінальнасць, выхоўваць свой густ індывідуальнасці.

Рамесніцтва задзейнічана і ў выхаваўчым працэсе. На прыкладзе сваіх бацькоў, якія маюць рамесную майстэрню, іх дзеці з ранняга ўзросту прывучаюцца да працы, дапамагаючы бацьку ці маці ў рамесніцкай справе. Такім чынам, рамесніцтва можа перадавацца з пакалення ў пакаленне.

На жаль, беларускае рамесніцтва зараз пакуль што ў зародкавым выглядзе. Пакуль няма ні адпаведнай канцэпцыі, ні навучальных планаў і праграм, ні абсталявання, ні памяшканняў, ні кваліфікаваных спецыялістаў.

**— Дык можа варта звярнуцца да міжнароднага вопыту?**

— Існуе грунтоўная дзесяцігадовая праграма развіцця рамесніцтва ЮНЕСКО, якая можа служыць асновай стварэння нашага заканадаўства. У праграме даецца статус рамесніцкіх устаноў, навучанне рамеснікаў, павышэнне іх кваліфікацыі, камерцыйная дзейнасць, пытанні фінансавання і многае іншае, што тычыцца развіцця рамесніцтва.

Неабходна вывучаць здабыткі навучальнага працэсу іншых краін. Дарэчы, сорак шэсць дзяржаў актыўна і глыбока развіваюць гэтую галіну вытворчасці, дзе яшчэ ў сярэдніх школах частку навучальнага часу выкарыстоўваюць для навучання рамёствам. Там практычная падрыхтоўка мае некалькі накірункаў: тэхніка, творчасць, маркетынг, камерцыйныя аперацыі. І тыя сённяшнія каноны прафесійнай адукацыі, якія існуюць у нас, наўрад ці падыдуць для сучаснай падрыхтоўкі будучага рамесніка.

У нашай краіне працуе шэраг мастацкіх вучылішчаў, якія адраджаюць народныя рамёствы.

На сённяшні дзень мы спрабуем рэалізаваць толькі адну прафесію, найбольш набліжаную да рамесніцтва. Гэта гаспадыня сядзібы. Яна павінна ўмець ткаць, шыць, выпякаць хлеб, займацца бухгалтарскім улікам, ведаць медыцыну.

І ў гэтай сваёй першай спробе мы зрабілі і першую выснову: асноўны ўхіл у навучанні рамесніцтву неабходна рабіць на практычныя заняткі, на індывідуальнае навучанне. Для гэтага патрэбна шукаць рамеснікаў, забытыя рамёствы, старыя рэцэпты, каб стварыць падмурак гэтай важнай справе. З такой мэтай і збіраемся стварыць пры нашым інстытуце ініцыятыўную групу, якая б пачала экспертызу існуючага рамесніцтва ў Беларусі. Хочацца спадзявацца, што і чытачы "Настаўніцкай газеты" падкажуць нам адрасы беларускага рамесніцтва.

## ТВЛ ІДЗЕ ДА ЧЫТАЧА

У Маладзечанскім гарадскім цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў адбылася паэтычная вечарына з удзелам сяброў Таварыства Вольных Літаратараў.

Як дарослыя слухачы, так і школьнікі змаглі з першых вуснаў пачуць расповяд пра "творчую кухню" літаратара і метад эстэтычнай правакацыі, пра паганскую (язычніцкую) плынь у сучаснай беларускай паэзіі і пра тое, ці можа творца заставацца па-за палітыкай. Чыталі тэвээлаўцы і свае вершы, чыталі не толькі згодна ўласнага выбару, але і "на заказ". І на пытанні, часам дастаткова далікатныя, мусілі адказваць.

Па завяршэнні вечарыны слухачы мелі магчымасць набыць кніжачкі выдавецкай суполкі "Полацкае ляда" і атрымаць аўтографы гасцей.

Застаецца дадаць, што арганізаваў сустрэчу спадар Міхась Казлоўскі, актыўны дзеяч беларускага руху ў Маладзечне.

Рыгор ЗЭС.

## "ВОСЬ ТАБЕ, ХЛОПЧЫК, СВІСЦЁЛКА..."

### ДЗІЦЯЧЫЯ САДЫ І ШКОЛЫ НЕ ПЕРШЫ ГОД ЧАКАЮЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЦАЦКУ

Сацыялагічнае даследаванне на тэму "Сучаснае становішча з цацкай у дзіцячых дашкольных установах" праведзена Беларускім навукова - метадычным цэнтрам гульні і цацкі па заданні Міністэрства адукацыі. Задачы даследавання былі даволі канкрэтныя: выявіць ступень забеспячэння дзіцячых садкоў рознымі відамі цацак, акрэсліць адносіны да іх спецыялістаў дашкольных устаноў, распрацаваць рэкамендацыі па ўдакладненні і ўдасканаленні асартыменту цацак. Аб'ектам даследавання з'явіліся дашкольныя ўстановы Мінска і бацькі, якія маюць дзяцей ад 3 да 7 гадоў.

Адбор аб'ектаў назірання вёўся па верагоднасным выбары. З садкоў Мінска былі выбраны 25, спецыялісты якіх (загадчыкі, выхавацелі, старшыя выхавацелі) выступалі ў ролі экспертаў. У гэтых жа садках праводзілася апытанне бацькоў (у колькасці 300 чалавек). Метады збору інфармацыі былі даволі разнастайныя і ўключалі ў сябе распрацоўку анкет (для загадчыкаў, старшых выхавацеляў, выхавацеляў), субяседаванне з вышэйназванымі спецыялістамі, непасрэдныя назіранні за наяўнасцю цацак у дзіцячых садках. Усяго апытана 75 спецыялістаў, з іх 50 выхавацеляў. Больш як 80 працэнтаў апытаных спецыялістаў мелі стаж педагагічнай працы больш за 5 гадоў.

Адно з галоўных пытанняў: як забяспечаны садкі цацкамі? Атрымалі адказ, які і чакалі атрымаць: забеспячэнне садкоў цацкамі яўна недастатковае. З дзевяці відаў цацак толькі два — цацкі-забаўкі і гульневыя рэчы больш-менш у наяўнасці. І што характэрна — дэфіцыт цацак нельга суаднесці з пэўнай узроставай групай — ён вельмі адчувальны літаральна ва ўсіх групах. Не хапае канкрэтных цацак, як, напрыклад, фігурак людзей (дзяцей, дарослых, літаратурных герояў). Асабліва вялікая патрэба ў наборах загатовак, паўфабрыкатаў і матэрыялах для вырабу сюжэтна-ролевых гульняў. Сярод тэхнічных цацак папулярнасцю карыстаюцца электронныя з праграмным забеспячэннем. Але патрэба ў іх перавышае наяўнасць аж у сем разоў! Такая ж вялікая патрэбнасць у настольных гульнях "Футбол", "Хакей", "Марскі бой" і інш.

Нараканні ў спецыялістаў выклікае і якасць гульняў і цацак. Часам яны эстэтычна невыразныя, многія з іх хутка псуюцца. Таму 76 працэнтаў выхавацеляў пастаянна займаюцца вырабам цацак самі, а некаторыя нават прыцягваюць да сумеснай работы і бацькоў. У першую чаргу вырабляюцца персанажы для тэатраў, святочна-карнавальныя маскі, дыдактычныя матэрыялы па матэматыцы, развіцці мовы, цацкі з саломкі, тканіны, паперы. Цяжка вырашаецца пытанне і з вяртаннем цацкам другога жыцця. Сродкаў на рамонт і абнаўленне цацак яўна недастаткова.

Цікавымі былі адказы і на пытанне мэтазгоднасці вырабу дзіцячых цацак спецыяльна для дашкольных дзіцячых устаноў. Так, 96 працэнтаў загадчыкаў і 85 працэнтаў выхавацеляў вызначылі неабходнасць вырабу спецыяльных цацак, і пры гэтым з пэўнымі патрабаваннямі. У першую чаргу ў шырокім асартыменце павінны быць прадметы для дзіцячай творчасці і гульневыя сродкі пераважна навучальнага характару. Пажадана таксама павысіць узровень тэхнічнай складанасці і павялічыць памеры цацак.

Шэраг пытанняў анкеты датычаў праблем забеспячэння дзіцячых садкоў нацыянальнай цацкай. Адказы спецыялістаў выявілі сумную карціну: толькі палова апытаных адказалі на гэта пытанне станоўча, але падкрэслілі надзвычай сціплы асартымент нацыянальнай цацкі ў садках — гэта пераважна лялькі з саломкі і лёну, нешматлікія свісцёлкі. І ўсё. Цяжка на гэтым небагатым матэрыяле вырашаць задачы нацыянальнага выхавання і навучання. І ў той жа час якія багатыя магчымасці ў'яўляе традыцыйны гульневы матэрыял, што з вялікім поспехам можа выкарыстоўвацца ў дзіцячых садках! Гэта разнастайныя цацкі з гліны — (звяры, птушкі, фігуркі), драўляныя, у тым ліку з прасцейшым рухам (кавалі, пільшчыкі, вершнікі і інш.). Нельга забываць і пра лялькі, фігуркі жывёл, сплеценыя з залацістай саломкі, пра святочна-тэатральную атрыбутыку — маскі, персанажы. Варта знаёміць дзяцей з народнымі музычнымі інструментамі, пачынаючы з больш простага (бразготкі, трашчоткі, вугольніка), і канчаючы больш складанымі — цымбалы, ліра, гармонік і інш.

Вялікія магчымасці для выхавання дзяцей даюць таксама гульневыя навучальныя сродкі, звязаныя з беларускім народным мастацтвам, этнаграфіяй, традыцыйнымі промысламі і рамёствамі. Напрыклад, чаму б не знаёміць дзяцей з вырабамі дрэваапрацоўчых промыслаў, з тымі ж распіснымі куфрамі? Ранейшай праграмай дзіцячага садка прадугледжвалася знаёмства з хахламскім, гарадзецкім роспісам і зусім не згадваліся нацыянальныя здабыткі народнага мастацтва ў народнай галіне. А яны даволі значныя і заслугоўваюць таго, каб нашы дзеці мелі аб іх поўнае ўяўленне.

Як гэта зрабіць? Беларускі навучальна-метадычны цэнтр гульні і цацкі ўжо распрацаваў дыдактычны дапаможнік "Беларускія куфры". Ён складаецца з куфраў розных памераў, якія ўваходзяць адзін у адзін (накшталт матрошкі). І што цікава — кожны куфар размаляваны, прычым не адвольна, а ў адпаведнасці з тымі відамі роспісаў, які здаўна вядомы на Беларусі — агоўскім, чачэрскім, гродзенскім, лідскім, лельчыцкім. Гэты набор куфраў можа быць з поспехам выкарыстаны ў дзіцячым садку і для этнаграфічнага кутка, і як мэбля, дзе можна захоўваць цацкі, розныя гульневыя матэрыялы, а маленькія куфры — для розных сюрпрызных момантаў. Але галоўнае — яны пазнаёмяць дзяцей з узорамі традыцыйнага беларускага роспісу, будуць неацэнным матэрыялам на занятках па выяўленчым мастацтве, працы. І попыт на гэты дапаможнік вельмі вялікі, што пацвярджаецца апытаннем выхавацеляў, загадчыкаў садкоў. Вельмі патрэбны сёння альбомы-размалёўкі па асобных ведах народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (народныя строі, шляхецкая вопратка, кераміка, слуцкія паясы і г.д.), кніжкі-цацкі-самаробкі накшталт "Беларускія млыны", якія падрыхтаваны ў Цэнтры і хутка выйдуць з друку. У кніжцы прадстаўлены ўзоры беларускіх млыноў, іх розныя тыпы, творы народнай педагогікі, прысвечаныя гэтай тэме. Узяўшы нажніцы, можна выразаць і дэталі з паперы, каб сабраць мадэлі апісаных млыноў. Такім чынам, дзеці маюць магчымасць не толькі знаёміцца з некаторымі ўзорамі айчыннага дойлідства, а і мэтанакіравана займацца мастацкай працай.

Большасць спецыялістаў адзначыла вялікі недахоп дыдактычнага гульневага матэрыялу з элементамі беларускай народнай творчасці. Улічваючы гэта, супрацоўнікі БЦГЦ падрыхтавалі шэраг настольных друкаваных гульняў, якія знаёмяць дзяцей з раслінным і жывёльным светам Беларусі, нацыянальным фальклорам, этнаграфіяй ("Цімошак у вёсцы ў бабулі і дзядулі", "Хто дзе жыве", "Што дзе расце", "Падарожжа па беларускіх казках"). Некаторыя з іх, як, напрыклад, "Пераскочкі", створаны на аснове беларускіх народных рухомых гульняў. БЦГЦ лічыць гэты накірунак сваёй дзейнасці вельмі перспектыўным і прыкладае шмат намаганняў па яго ажыццяўленні.

Але гэта не адзіны напрамак дзейнасці Цэнтра па адраджэнні беларускай культуры і адаптацыі яе ў сучасным выхаваўчым і навучальным працэсе. Вялікая работа праводзіцца па адраджэнні старажытнага народнага лялечнага тэатра. Распрацаваны адна- і двух'ярусная батлейкі з камплектам цудоўных лялек-персанажаў, створаны ценявы тэатр. Батлейкі прыгожа аздабляюцца роспісам, аплікацыяй, саломкай, выцінанкай, і таму не выпадкова, што набыць іх для дзіцячага садка выказалі жаданне бадай што ўсе апытаныя спецыялісты.

Народны лялечны тэатр у садку — гэта не толькі знаёмства з нашай нацыянальнай спадчынай, але і развіццё акцёрскіх і мастацкіх здольнасцяў дзяцей, якія змогуць праявіцца ў працэсе афармлення батлейкі і пастаноўкі спектакля. Справа ў тым, што батлейкі можна набываць у Цэнтры неафармленыя і самім упрыгожваць іх і нават змайстраваць для іх лялькі. Дакладныя рэкамендацыі дадзены ў спецыяльнай брашуры "Над вертэпам звязда ясна".

Сучасная нацыянальная цацка сёння патрэбна ўсім — і дзіцячым садкам, і школам. І ствараць яе неабходна агульнымі намаганнямі Міністэрства адукацыі і навукі, прадпрыемстваў, супрацоўнікаў БЦГЦ.

Ала ЛЯВОНАВА,
метадыст Беларускага
навукова-метадычнага
цэнтра гульні і цацкі.

ВЫСТАВЫ

## СВАЕ І ЗАМОРСКІЯ

**Гарадская выстава дароў прыроды "Восень-94" адбылася ў Магілёўскім абласным Палацы піянераў і школьнікаў. Яе ўжо шмат гадоў праводзіць гарадскі аддзел адукацыі сумесна з гарадскім таварыствам аховы прыроды.**

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы надвор'я сёлетняга года, юнаты здолелі вырасціць багаты ўраджай агароднінных і пладовых культур, кветак. Сярод удзельнікаў выставы былі больш як 50 працэнтаў школ горада, гарадскія і абласныя станцыі юных натуралістаў, фірма "Святлана".

На жаль, шматлікія кветкавыя кампазіцыі, якія выстаўляліся ў недалёкім мінулым многімі прадпрыемствамі Магілёва, на гэты раз былі прадстаўлены толькі адной абутковай эксперыментальнай фабрыкай...

Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікала калекцыя пакаёвых раслін, многія з якіх "заморскія", Ю.В.Карацеева. Ён прадстаўляў фірму "Святлана". Многія з культур яго калекцыі можна было тут жа купіць.

**Кідаліся ў вочы па-майстэрску зробленыя кветкавыя кампазіцыі 28-й сярэдняй школы, раённага навучальна-метадычнага цэнтра, 29-й сярэдняй школы, якая перайменавана ўжо ў гімназію.**

Кветкі, кветкі... Многім было прыемна бачыць не толькі іх прыгажосць, уменне скласці з іх разнастайнасці фарбаў і таноў ласкальную душу кампазіцыю, а і ўмела падабраную назву ў духу нашай беларускай нацыянальнай культуры.

За самы актыўны ўдзел каштоўныя падарункі ўручаны вучням сярэдніх школ №№27, 35, 29 Ленінскага раёна Магілёва. Са школ Кастрычніцкага раёна лепшымі прызнаны сярэднія школы №№5 і 18; у Цэнтральным раёне — школы №№19,17, 28, 11.

Георгій БАГДАНОВІЧ.

Фота аўтара.

# НГ-ІНФАРМ

З ДАРОГ ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ

## Адкрыцці шчаслівай навукі

### УПЕРШЫНЮ ПЕРАД ВАЧЫМА АСТРАНОМАЎ РАЗГОРТВАЛАСЯ ДРАМАТЫЧНАЯ КАРЦІНА СУТЫКНЕННЯ АСКОЛКАЎ БУЙНАГА НЯБЕСНАГА ЦЕЛА З САМАЙ ВЯЛІКАЙ ПЛАНЕТАЙ СОНЕЧНАЙ СІСТЭМЫ...

Гэтым летам багатая Крымская зямля ветліва сустракала прыхільнікаў музы Ураніі: горад-герой Керч прымаў гасцей — удзельнікаў VIII злёту юных астраномаў. Ініцыятарам і галоўным натхніцелем ідэі правядзенне злёту ў Крыме была кіраўніца астранамічнага гуртка пры Керчанскім Палацы дзіцячай творчасці — Тамара Мікалаеўна Лысак. Як і папярэдні, VII злёт астраномаў, сёлетні сабраўся ў жніўні і прымеркаваны быў да часу найбольшай актыўнасці метэорнага патоку Персяід, які назіраецца ў ноч з 11 на 12 жніўня і асацыіруецца з перыядычнай каметай Свіфта-Тутля.

Юныя астраномы з трох братніх дзяржаў — Украіны, Расіі і Беларусі — сабраліся разам, каб абмеркаваць вынікі вельмі цікавых назіранняў, расказаць пра свае адкрыцці. Гэта ж добра, што падзеі ў космасе, якія адбываліся адна за адной, не дазволяць расслабіцца і супакоіцца знаўцам зорнага неба. Вось і сёлетні ліпень быў адзначаны ўнікальнейшай падзеяй у гісторыі астранамічных назіранняў. Упершыню перад вачыма астраномаў разгорталася драматычная карціна сутыкнення асколкаў буйнага нябеснага цела з самай вялікай планетай Сонечнай сістэмы. Вядома ж, размова ідзе аб падзенні каметы Шумейкер-Леві 9 на Юпітэр. І заканамерна, што шмат якія даклады, прачытаныя на канферэнцыі, былі прысвечаны гэтай падзеі, якая прымусіла задумацца аб унікальнасці жыцця на Зямлі. Добра, што многія ўдзельнікі злёту ўжо зараз зразумелі важнасць гэтага пытання і прапанавалі свае праекты стварэння пояса бяспекі вакол Зямлі.

Трэба сказаць, каманда Беларусі вельмі добра выступіла на канферэнцыі. Тры гарады: Навапалацк (сярэдняя школа №2), Мінск (ДДТ) і Віцебск (школа-гімназія №15) прыслалі сваіх дэлегатаў. І асабліва прыемна, што суперпрыз злёту — камплект оптыкі люстранога тэлескопа дыяметрам 30 сантыметраў сістэмы Ньютана — дастаўся беларусам — юным астраномам Віцебска. Хочацца адзначыць, што менавіта дзякуючы кіраўніку віцебскга гуртка юных астраномаў Уладзіміру Аляксандравічу Голубеву камандзе горада ўдалося так паспяхова выступіць на злёце. Гурткоўцы прывезлі два дыпломы І ступені (работа Андрэя Апенькі і калектыўная праца "Самаробны планетарый") і чатыры дыпломы ІІ ступені.

Чым жа займаліся ўвесь час юныя назіральнікі зорак? Удзельнічалі у рабоце секцый. прысвечаных абсалютна ўсім раздзелам астраноміі і нават сумежных з ёю навук (упершыню была арганізавана секцыя геафізікі). Кожны мог выбраць тое, што яму больш падабалася. Цікава было паслухаць і лекцыі. Супрацоўнік Крымскай астрафізічнай абсерваторыі Ю.Ф.Малькоў расказаў аб найноўшых даных, атрыманых у выніку назірання каметнай бамбардзіроўкі Юпітэра, аб праблеме скрытай масы ў Сусвеце, аб гравітацыйных лінзах і іншых важных навінах астранамічнай навукі. Не забыта была таксама і знамянальная дата: год правядзення злёту супаў з 25-годдзем высадкі амерыканскіх астранаўтаў на Месяц. Гэтай падзеі прысвяціў сваю лекцыю, якая суправаджалася паказам унікальных слайдаў, віцэ-прэзідэнт астранома-геадэзічнага таварыства В.М.Мажэрын. Але асаблівую цікавасць і шматлікія спрэчкі выклікала гутарка па праблемах існавання пазазямных цывілізацый, паралельных светаў, у якой разглядаўся новы погляд на будову мікрасвету, было закранута пытанне існавання эфіру. Кіраваў гэтым своеасаблівым "круглым сталом" педагог з Варкуты Ю.В.Селянок.

Вельмі актыўна праходзілі начныя назіранні зорнага неба. Асабліва вызначаліся стараннасцю секцыя пераменных зорак і метэорная. Метэоршчыкі з Керчы, Кірава і Сімферопаля з зайздросным пастаянствам выходзілі на свой "баявы пост". Але гэтак жа, як і 2 гады таму, ім крыху не пашанцавала — у момант максімума неба перыядычна зацягвалася воблакамі.

Знаходзячыся ў Керчы, мы не маглі не пазнаёміцца з гісторыяй гэтага старажытнага горада. Больш як 25 стагоддзяў таму на гары Мітрыдат узнік горад Панцікапей, што ў перакладзе азначае "рыбны шлях". Тут, у праліве, паводле падання, мора кішэла рыбай. І грэкі, атрымаўшы нябесны знак, пабудавалі горад, які быў бліжэй за ўсіх да неба. Сапраўды, калі глыбокай ноччу над тваёй галавой рассцілаецца аксамітны купал неба, усыпаны алмазамі, здаецца, што ў гэтую хвіліну ты бліжэй за ўсё да тайнаў Сусвету. Пабывалі мы і ў Аджымушкайскіх катакомбах, куды ў час вайны пайшло амаль усё насельніцтва Керчы. Страшна слухаць расказы аб тым, як, пусціўшы газы ў падзямелле, фашысты прымусілі выйсці на паверхню жанчын і дзяцей, як урачы ў найцяжэйшых умовах апераравалі раненых, як суткамі людзі абыходзіліся без вады і ежы. Але ўсё ж у гэтых найцяжэйшых умовах яны мужна змагаліся супраць акупантаў. І хоць усе абаронцы гарнізона загінулі, была атрымана маральная перамога над ворагам...

Няўмольны час бег наперад і 10 дзён праляцелі неўпрыкмет. Але ўсё ж добра, што ў гэты нялёгкі час, нягледзячы на ўсе цяжкасці ў выглядзе граніц, таможняў і іншых перашкод, нам удалося сабрацца на беразе цёплага мора, каб абмеркаваць найбольш цікавыя пытанні астраноміі, намеціць новыя планы і палюбавацца кароткімі жнівеньскімі начамі захапляючай прыгажосцю бязмежнага зорнага акіяна. Было шкада расставацца з новымі сябрамі, з морам. І хочацца з надзеяй сказаць: да сустрэчы, новы злёт! Астраномія ж сапраўды шчаслівая навука: грандыёзныя з'явы ў Сусвеце разгортваюцца незалежна ад дзяржаўных граніц.

Алена ШАВЯЛЁВА.

ФАКУЛЬТЭТ КІРАЎНІКА

## Як зразумець інтарэсы падначаленага

Службовыя кантакты маюць тую асаблівасць, што не выключаюць узаеміны асоб з рознымі жыццёвымі пазіцыямі. Супрацьлеглыя пазіцыі асоб часта выступаюць умовай стварэння канфліктных сітуацый. Дыялог паміж субяседнікамі ў такім выпадку можа быць накіраваны на высвятленне пазіцый кожнага, а не на сутнасць абмяркоўваемага пытання. У выніку — тупіковая сітуацыя, калі ні адно з прапаноўваемых рашэнняў не задавальняе два бакі. Таму вельмі важна вызначыцца і засярodзіць увагу на інтарэсах і імкнуцца прымірыць іх, а не пазіцыі.

Галоўная праблема службовых узаемін заключаецца не ў супярэчлівых пазіцыях, а ў канфлікце паміж жаданнямі, клопатамі, патрэбамі кожнага з бакоў. Гэта значыць, паміж інтарэсамі людзей, якія з'яўляюцца матывамі іх паводзін. Паспяховае ўзгадненне інтарэсаў, а не пазіцый, дае станоўчы вынік па дзвюх абставінах.

Першая. Для задавальнення кожнага віду інтарэсаў звычайна існуе некалькі магчымых пазіцый. Не рэдкая з'ява, калі субяседнік займае адну вызначаную, магчыма нават жорсткую, пазіцыю. Аднак, звычайна нават павярхоўны аналіз матывіроўкі інтарэсаў дае магчымасць убачыць альтэрнатыўную пазіцыю, якая можа задаволіць два бакі.

Другая. Прымірэнне інтарэсаў замест дасягнення кампрамісу паміж пазіцыямі магчыма і таму, што за супрацьлеглымі пазіцыямі хаваецца значна больш інтарэсаў у параўнанні з тымі, якія ўвайшлі ў супярэчнасць. Зразумець за пазіцыяй інтарэс — гэта значыць вызначыць перспектыву выгаднага супрацоўніцтва, альбо станоўчых службовых кантактаў. Пазіцыя часцей за ўсё больш канкрэтная і зразумелая, а інтарэсы, якія стаяць за ёю, могуць быць дрэнна выражаны і, магчыма, непаслядоўны.

Што патрэбна зрабіць, каб зразумець інтарэсы субяседніка, падначаленага?

Адзін з асноўных прыёмаў — паставіць сябе на яго месца. Чым растлумачыць, што дырэктар навучальнай установы і яго выкладчык не заўсёды разумеюць адзін аднаго? Дырэктар на праблему глядзіць толькі з боку патрабаванняў, зыходзячы з функцыянальных абавязкаў педагога. Выкладчык жа ўлічвае асаблівасці праблемы з улікам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў: асабістага настрою, стану ўзаемін у сям'і, асаблівасцяў фарміравання вучнёўскага і педагагічнага калектываў, наяўнасці навучальна-матэрыяльнай базы, якая адпавядала б прад'яўляемым патрабаванням і г.д. Змяненне пазіцыі кіраўніка ўстановы ў гэтым выпадку магчыма пры змяненні падыходаў да ўліку інтарэсаў выкладчыка.

У час службовых кантактаў асноўныя чалавечыя патрэбы субяседнікамі не заўсёды ўлічваюцца. Вось чаму некаторыя кіраўнікі да задавальнення асобасных патрэб падначаленымі адносяцца як да праявы эгаізму і мяшчанства. Што і выступае як фактар напружанасці і нестабільнасці ў працы ўсяго калектыву.

У такім разе кіраўнік можа скласці пісьмова пералік інтарэсаў сваіх падначаленых. Гэта не толькі дапаможа захаваць іх у памяці, а будзе таксама садзейнічаць паглыбленню аналізу па меры таго, як будзе паступаць новая інфармацыя. Больш таго, гэта можа стымуляваць новыя ідэі адносна задавальнення гэтых інтарэсаў. І, калі ў працэсе размовы з падначаленым няма дэманстрацыі абыякавасці да яго інтарэсаў, то тым самым можна настойліва даказваць сур'ёзнасць клопатаў аб яго патрэбах.

Асабістыя клопаты часам не дазваляюць зразумець інтарэсы іншых. Падначалены заўсёды больш уважлівы, калі адчувае, што яго зразумеюць. Тады субяседнік схіляецца да думкі, што той, хто яго разумее, сімпатызуючы яму чалавек, да чыёй думкі неабходна прыслухацца. Таму для засяроджвання ўвагі субяседніка неабходна пачынаць з дэманстрацыі таго, што яго інтарэсы ўлічваюць і шануюць.

Назіранні паказваюць, што іншы раз кіраўнік у працэсе службовых кантактаў прапануе падначаленым сваё вырашэнне пытання, а затым фарміруе праблему. Звычайна такая працэдура вырашэння праблемы не працуе. На чарговай радзе кіраўнік навучальнай установы, звяртаючыся да прысутных намеснікаў і выкладчыкаў, прапанаваў:"Стан выкладання грамадскіх навук даўно выклікае занепакоенасць як педагогаў і навучэнцаў, так і бацькоў. Я мяркую, што нам неабходна тэрмінова правесці комплексную праверку па гэтым пытанні, вынікі падвесці на пасяджэнні рады. Магчыма, прыйдзецца прыбегнуць да адміністрацыйных сродкаў уздзеяння да асобных выкладчыкаў. Вось чаму..." Менавіта для ўдзельнікаў нарады, і перш за ўсё для тых, хто непасрэдна адказвае за гэтае пытанне, далейшыя аргументы аб неабходнасці такіх дзеянняў не будуць мець сэнсу. Яны зразумелі пазіцыю дырэктара і будуць шукаць контраргументы.

Для таго, каб аргументы кіраўніка былі ўспрыняты, неабходна выкласці свае інтарэсы і матывы, а потым абагульняць і даваць прапановы. Ход падзей можа быць павернуты такім чынам, што свае варыянты рашэнняў будуць прапанаваны другім бокам — прысутнымі на пасяджэнні.

У разгледжанай сітуацыі магчымы наступны ход абмеркавання пытання. Кіраўнік, спасылаючыся на матэрыялы чарговых праверак і інфармацый, якія паступаюць на яго адрас ад грамадскіх арганізацый, знаёміць удзельнікаў рады са станам выкладання грамадскіх навук. "Тая ўвага, з якой мы адносімся да гэтага пытання, звязана з асаблівасцямі часу, калі сітуацыя ў краіне патрабуе перагляду пазіцый у выкладанні грамадскіх навук. Вось чаму я з задавальненнем паслухаў бы вашы прапановы" — працягвае дырэктар. Далей пры абмеркаванні праблемы кіраўнік можа падтрымаць супярэчлівасці, развіць думку аб мерах па ўдасканаленні навучальнай работы. Пасля гэтага ўвага прысутных да пытання ўзрасце.

Разам з тым, адстойваючы свае, а ў даным выпадку ведамасныя інтарэсы, неабходна быць цвёрдым настолькі, наколькі магчыма прыняць рашэнне, адэкватнае абставінам.

У працэсе гутаркі неабходна ўсяляк падтрымліваць субяседніка: слухаць яго ўважліва і з павагай, падкрэсліваючы тым самым імкненне зразумець яго клопаты. Аднак гэта не павінна перашкаджаць займаць пэўную пазіцыю па абмяркоўваемым пытанні.

Прыняцце новых ідэй патрабуе асэнсавання новых праблем, якія раней не прыходзілася вырашаць. Такая сітуацыя не выключае "мазгавой атакі", гэта значыць нейкай творчай рады з калегамі і падначаленымі, якая ў апошні час атрымала прапіску ў асяродку кіруючых колаў.

Метад "Мазгавых атак" стварае спрыяльныя ўмовы для творчага падыходу да вырашэння праблемы. Гэта дазваляе прымаць канструктыўныя рашэнні. Пошукі патрэбных варыянтаў магчымы пры выкарыстанні розных спосабаў мыслення.

Першы — думаць пра пэўную праблему, напрыклад, пра рэальную сітуацыю, якая вам не падабаецца: адсутнасць неабходных фінансавых рэсурсаў для вырашэння пытанняў дастатковага матэрыяльнага забеспячэння навучальнай установы. Другі — апісальны аналіз. Пастаноўка дыягназу існуючай сітуацыі звычайным чынам: драбленне праблемы па катэгорыях з указаннем прычын. Недастатковае фінансаванне ўстаноў адукацыі — вынікі крызісу эканомікі і спынення работы прадпрыемстваў. Вынік усяго гэтага — скарачэнне мясцовага бюджэту, з якога фінансуецца адукацыя. Трэці — думаць аб тым, што павінна быць зроблена. Улічваючы тое, што ваш прамы ўплыў на змяненне агульнай сітуацыі абмежаваны, неабходна ў першую чаргу накіраваць усе намаганні на вырашэнне праблемы лакальнага характару. Як выкарыстоўваць сітуацыю: прыцягненне сродкаў фундатараў, здача ў арэнду памяшканняў, якія часова не выкарыстоўваюцца па прамым назначэнні і да т.п., што можа часткова выправіць становішча.

У апісанай схеме праблема разглядаецца ў пэўнай паслядоўнасці на прыкладзе нейкай ідэі. Маючы адну карысную прапанову — магчыма вызначыць агульны падыход, у якім дадзеная ідэя з'яўляецца адным з выкарыстоўваемых варыянтаў. Затым магчыма падумаць аб іншых прапановах, якія маюць агульны падыход да праблемы. Такім чынам, адзін станоўчы варыянт можа даць штуршок пошуку шляхоў вырашэння праблемы.

Адзін з спосабаў распрацоўкі шматлікіх варыянтаў заключаецца ў тым, каб разгледзець праблему з пункту гледжання розных зацікаўленых бакоў: адміністрацыі навучальнай установы, педагагічнага калектыву, навучэнцаў, бацькоў і грамадскасці. Сумясціўшы схему разгляду праблемы рознымі зацікаўленымі бакамі, можна прааналізаваць падыходы і даць практычныя рэкамендацыі па іх рэалізацыі.

Прымаючы рашэнне, неабходна ўлічваць, што адмаўляцца ад дзеяння, якое яшчэ не распачата, звычайна лягчэй, чым яго спыніць на стадыі выканання.

Шматлікія выпадкі невыканання прынятых рашэнняў у службовай практыцы прыводзяць да розных метадаў уплыву на падначаленых. Вельмі часта кіраўнік уздзейнічае на выканаўцу шляхам пагроз і папярэджанняў. У даным выпадку мэтазгодна было б кіраўніку ўявіць сябе на месцы выканаўца. Тады было б бачна, якіх вынікаў больш за ўсё апасаецца падначалены. Магчымы шлях дзеянняў у такім выпадку — аналіз сітуацыі. Неабходна засяродзіць увагу на тым, як выканаўца ўспрымае вынікі, якія могуць мець месца пасля прыняцця рашэння, а таксама магчымасць іх выпраўлення з улікам сітуацыі. Гэта дазволіць распрацаваць варыянты, якія будуць адпавядаць інтарэсам выканаўцы.

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця ўплывае на ўзаеміны супрацоўнікаў як па гарызанталі, так і па вертыкалі. Іншы характар прынялі службовыя кантакты. На вытворчых радах у асабістых гутарках усё часцей з'яўляецца спакуса крытыкаваць і адвяргаць прапановы адміністрацыі. У асобных кіраўнікоў у такім выпадку выпрацоўваецца рэакцыя, адэкватная паводзінам падначаленых. Пры безальтэрнатыўнай абароне сваіх прапаноў ствараецца перадумова застацца на асабістай пазіцыі. Настойлівая абарона сваёй прапановы звязвае кіраўніка, а гэта можа прывесці да асабістага сутыкнення, што прывядзе да марнай траты часу і сіл.

**Якія ж магчымы выхады з падобнай сітуацыі?**

Ніколі не патрэбна ціснуць у адказ. Не адвяргаць падыходы ўдзельнікаў канфлікту, калі яны вызначаюць свае пазіцыі. Не абараняць свае ідэі, калі апаненты іх атакуюць. Не контратакаваць. Замест таго, каб аказваць адваротны ціск, неабходна ўхіліцца ад удару і накіраваць яго на праблему. Тады ўся яго сіла будзе працаваць на карысць справы. Усе намаганні неабходна накіраваць на вывучэнне інтарэсаў, вынаходніцтва варыянтаў для ўзаемнай выгады і пошуку незалежных крытэрыяў.

У канфліктных сітуацыях у працэсе службовых кантактаў падначаленымі іншы раз дапускаюцца неабгрунтаваныя выпады ў адрас адказных асоб. Найбольш эфектыўны спосаб абароны ў такім выпадку — маўчанне. Гэта выбівае ўсе аргументы ў апанентаў і спрыяе спыненню надуманых нападак.

Такім чынам, у службовых кантактах інтарэсы ўплываюць на характар паводзін іх удзельнікаў, спрыяюць ці не спрыяюць дасягненню ўзаемапрымальных рашэнняў у межах пастаўленых задач.

М.ФЯСЬКОЎ.

# КАНЦЭПЦЫЯ СТАНДАРТАЎ АГУЛЬНАЙ СЯРЭДНЯЙ АДУКАЦЫІ

## (АСНОЎНЫЯ ПАЛАЖЭННІ)

**"Настаўніцкая газета" працягвае публікаваць матэрыялы, прысвечаныя стандартызацыі адукацыйнай сістэмы. Сёння мы друкуем у скарочаным выглядзе тэкст канцэпцыі стандартаў агульнай сярэдняй адукацыі.**

**Асноўныя палажэнні канцэпцыі вызначаюць напрамкі даследчай работы па стварэнні часовага стандарту агульнай сярэдняй адукацыі. Мяркуецца, што гэты дакумент пакладзе пачатак шматграннай рабоце па выпрацоўцы такіх стандартаў, якія павінны вызначыць дакладныя межы паміж рознымі ўзроўнямі навучання ў сучаснай агульнаадукацыйнай школе.**

**Поўны тэкст канцэпцыі будзе змешчаны ў часопісе "Адукацыя і выхаванне". Свае заўвагі і прапановы па канцэпцыі прысылайце ў рэдакцыю "Настаўніцкай газеты".**

## I. Агульная характарыстыка адукацыйнага стандарту

Школа Беларусі за апошняе дзесяцігоддзе прайшла даволі складаны шлях. Старая сістэма адукацыі з яе жорсткай нарматыўнасцю і ўраўнілаўкай паступова адышла ў нябыт, а працэс станаўлення новай сістэмы зараз ужо прайшоў пачатковую стадыю і наблізіўся да свайго кульмінацыйнага моманту. Рэтраспектыўны агляд працэсу абнаўлення адукацыйнай сістэмы вымушае прызнаць, што пачатковы этап рэфармацыі школы меў, побач з агульнымі станоўчымі вынікамі, і некаторыя выдаткі. Яны выразіліся ў тым, што ўвядзенне дыферэнцыраванага навучання ў старэйшых класах нярэдка суправаджалася неабгрунтаваным скарачэннем навучальнай нагрузкі па непрафіліруючых прадметах, у выніку чаго парушалася цэласнасць базіснага ядра агульнай сярэдняй адукацыі. Выпраўленне перакосаў у эксперыментальнай рабоце па дыферэнцыяцыі навучання пераканала нашу педагагічную грамадскасць, што, не ўдакладніўшы абавязковага для ўсіх вучняў мінімуму, які складае фундаментальную аснову агульнай сярэдняй адукацыі, выратаваць ад дэфармацыі базіснае ядро адукацыі немагчыма. Вось на гэтым этапе рэфармацыі адукацыйнай сістэмы і ўзнікла патрэбнасць у стандартах.

Ёсць і яшчэ адна важная акалічнасць, якая напамінае аб неабходнасці паскарэння работы па стварэнні адукацыйных стандартаў. Беларусь на сягонняшні дзень уключылася ў сусветную адукацыйную прастору. Гэта азначае, што надышоў час суаднясення нашай сістэмы адукацыі з адукацыйнымі сістэмамі іншых краін. Узнікае неабходнасць параўнання дакументаў аб адукацыі, прызнання іх у сусветным супольніцтве. Таму стандарты неабходны не толькі ў мэтах рэфармацыі нашай адукацыйнай сістэмы, але і з разлікам на супрацоўніцтва з іншымі краінамі.

Пры распрацоўцы канцэпцыі стандартаў выкарыстаны вопыт замежных краін, дэталёва вывучаліся і творча асэнсоўваліся часовыя стандарты Расійскай Федэрацыі, абагульнены вопыт развіцця адукацыйных сістэм у Рэспубліцы Беларусь. Канцэпцыя стандартаў агульнай сярэдняй адукацыі з'яўляецца тэарэтыка-метадалагічным дакументам, які вызначае шляхі распрацоўкі нацыянальных стандартаў розных узроўняў і на аснове іх — школьных праграм і іншых нарматыўных дакументаў.

Стандарты павінны дакладна размежаваць у школьных праграмах тое, што неабходна кожнаму вучню для ўдзелу ў працоўнай дзейнасці пасля школы, і тое, што неабходна выпускніку для яго далейшай вучобы і спецыялізацыі. Увядзенне стандартаў забяспечыць цэласнасць базіснага ядра адукацыі не толькі ў асноўнай, але і ў поўнай сярэдняй школе. Без гарантаванага ўзроўню базіснай падрыхтоўкі на ўсіх ступенях навучання нельга ажыццявіць прынцыпы пераемнасці і бесперапыннасці адукацыі, прадугледжаныя ў нашым заканадаўстве. Канцэпцыя акцэнтуе ўвагу на тым, што асноўная мэта ўвядзення стандартаў — узмацненне агульнаадукацыйнага патэнцыялу школы.

Стандарт — гэта дзяржаўная норма адукаванасці, якая ўдакладняе: змест і структуру адукацыі, узровень засваення зместу адукацыі, формы і метады вымярэння і ацэнкі вынікаў навучальнай дзейнасці. Асноўнымі аб'ектамі стандартызацыі з'яўляюцца змест адукацыі, яе структура, аб'ём навучальнай нагрузкі і ўзровень падрыхтоўкі вучняў.

Стандарт павінен забяспечыць стабільнасць вызначанага ўзроўню адукацыі, яе пастаяннае ўдасканаленне з улікам перспектыў развіцця грамадства. Асноўныя палажэнні стандарту канкрэтызуюцца ў працэсе распрацоўкі навучальных планаў, праграм, а таксама шэрагу нарматыўных дакументаў. Патрабаванні стандарту — гэта арыенцір для стварэння падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, лабараторнага абсталявання, наглядных дапаможнікаў і іншых сродкаў навучання.

Прынцыпы стандартызацыі знаходзяцца ў прамой залежнасці ад таго, якія аб'екты стандартызуюцца. Калі навучальны працэс складае аснову зместу стандартаў, то найбольшую значымасць набываюць такія прынцыпы стандартызацыі, якія скіраваны на аптымізацыю гэтага працэсу. У ліку асноўных можна выдзеліць наступныя прынцыпы:

— пераемнасць стандартаў па ступенях навучання і канкрэтных абласцях ведаў;

— стабільнасць стандарту на працягу пэўнага прамежку часу і магчымасць яго ўдасканалення ў выпадку стварэння новых умоў для яго рэалізацыі;

— магчымасць інструментальнай праверкі стандарту;

— улік мясцовых і рэгіянальных умоў пры вызначэнні змястоўнай часткі стандарту.

Функцыі стандарту цесна звязаны паміж сабой і выступаюць у неразрыўным адзінстве. Так, функцыя павышэння якасці адукацыі прадугледжвае гарантаванае дасягненне кожным вучнем зараней зададзенага ўзроўню базіснай падрыхтоўкі. Функцыя гуманізацыі адукацыі забяспечвае вучню права выбару найбольш прымальнага для яго шляху індывідуальнага развіцця, дае магчымасці навучацца на максімальна пасільным узроўні. Ажыццяўленне функцыі кіравання дазволіць павысіць аб'ектыўнасць кантролю за выкананнем патрабаванняў стандарту. І, нарэшце, функцыя сацыяльнага рэгулявання будзе гарантаваць болей стабільную паўнацэннасць базіснага ўзроўню адукацыі, умацаванне адзінай педагагічнай прасторы ў краіне, забеспячэнне эквівалентнасці адукацыі.

У кожным стандарце павінны быць вызначаны: мэты навучання, кампанентны састаў курса або прадмета, асноўныя заканамернасці і паняцці, узровень іх увядзення і плануемы ўзровень валодання імі.

## II. Структура стандарту

Распрацоўка стандартаў прадугледжвае тры этапы работы: 1) стварэнне канцэпцыі стандартаў, 2) падрыхтоўка часовага стандарту агульнай сярэдняй адукацыі, 3) дэталёвая распрацоўка стандартаў адукацыйных абласцей і на аснове іх — стварэнне новых або ўдакладненне існуючых школьных праграм.

Структурную аснову часовага стандарту могуць скласці наступныя яго раздзелы.

— Уступная частка (Рэалізацыя праз стандарты асноўных палажэнняў заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб адукацыі. Асаблівасці структуры і зместу агульнай сярэдняй адукацыі ва ўмовах рознаўзроўневай сістэмы навучання).

— Асновы арганізацыі адукацыйнай сістэмы ў школе (Тыднёвая нагрузка, абавязковая колькасць урокаў у кожным класе, рэгламент дамашніх заданняў, бюджэт рабочага часу вучня, сістэма ацэнак, умовы пераводу і выпуску навучэнцаў).

— Змест і структура стандарту адукацыйнай вобласці (Агульная характарыстыка адукацыйнай вобласці. Структурныя адзінкі ў складзе адукацыйнай вобласці: прадмет, раздзел прадмета, тэма раздзела, вучэбны элемент. Характарыстыка прадметаў, якія ўваходзяць у стандарт адукацыйнай вобласці).

— Патрабаванні да ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў (у межах канкрэтных прадметаў данай адукацыйнай вобласці).

— Вымярэнне стандартаў і сістэма ацэнак (Рэкамендацыі па выкарыстанні вымяральнікаў стандарту. Праверка ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў. Сістэма ацэнак).

У стандартах адукацыйных абласцей, у адрозненне ад часовага стандарту агульнай сярэдняй адукацыі, павінны быць дакладны пералік раздзелаў і тэм па кожнаму прадмету, болей канкрэтныя патрабаванні да ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў, апісанне працэдур вымярэння стандартаў і парадак выкарыстання сістэмы ацэнак. Стандарт адукацыйнай вобласці не проста дапаўняе агульныя палажэнні часовага стандарту, а ўдакладняе кожны раздзел навучальнага прадмета, напаўняючы яго канкрэтнымі паняццямі, фактычнымі звесткамі і лічбамі. Пры распрацоўцы школьных праграм гэты дакумент будзе мець асноватворнае значэнне.

Рэкамендуецца наступная прыкладная структура стандарту адукацыйнай вобласці.

— Агульная характарыстыка адукацыйнай вобласці (Яе педагагічная функцыя. Кароткая характарыстыка прадметаў, якія ўводзяцца ў школьную праграму).

— Базісны і павышаны ўзроўні зместу навучання па прадметах (Па кожнаму прадмету выдзяляюцца "Асноўны матэрыял", што складае базісны ўзровень зместу адукацыі, і "Дадатковы матэрыял", які адпавядае павышанаму ўзроўню).

— Патрабаванні да ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў (У гэтым раздзеле таксама выдзяляюцца "Патрабаванні да базіснага ўзроўню" і "Патрабаванні да павышанага ўзроўню").

— Кантроль за выкананнем патрабаванняў стандарту (Сістэма вымяральнікаў стандарту для кожнай ступені навучання. Апісанне працэдур вымярэння. Сістэма ацэнак).

Змест навучання ў 1—4 класах вызначаецца з арыентацыяй на першапачатковае фарміраванне асноўных бакоў культуры асобы. На гэтым узроставым узроўні выдзяляюцца ў якасці самастойных наступныя адукацыйныя вобласці.

**1. Мова** (Прадметы: беларуская мова, руская мова, замежная мова, мова нацыянальнай меншасці). **2. Матэматыка** (Прадмет: матэматыка). **3. Навакольны свет** (Прадметы: чалавек і свет, азнаямленне з навакольным светам, прыродазнаўства, мая Радзіма — Беларусь). **4. Мастацтва** (Прадметы: выяўленчае мастацтва, музыка і спевы). **5. Фізкультура** (Прадмет: фізічная культура). **6. Працоўная падрыхтоўка** (Прадметы: працоўнае навучанне, мастацкая праца, паасобныя заняткі па выбары вучняў).

У другой і трэцяй ступенях навучання (5—11 класы) захоўваецца адзіны набор адукацыйных абласцей. Большасць прадметаў аб'яднаны ў адукацыйныя вобласці з такім разлікам, каб у перспектыве можна было ствараць з блізкіх па профілю прадметаў інтэграваныя курсы. Усяго прапануецца для 5—11 класаў 8 адукацыйных абласцей. **1. Мова і літаратура** (Прадметы: беларуская мова, беларуская літаратура, руская мова, руская літаратура, замежная мова, мова нацыянальнай меншасці). **2. Мастацтва** (Прадметы: выяўленчае мастацтва, музыка і спевы, сусветная мастацкая культура). **3. Матэматыка** (Прадмет: матэматыка). **4. Грамадазнаўства** (Прадметы: гісторыя Беларусі, усеагульная гісторыя, чалавек і грамадства). **5. Геаграфія** (Прадметы: геаграфія, экалогія). **6. Прыродазнаўства** (Прадметы: біялогія, фізіка і астраномія, хімія). **7. Фізічная культура** (Прадмет: фізічная культура). **8. Тэхналогія** (Прадметы: інфарматыка, працоўнае навучанне, у тым ліку як састаўная частка гэтага прадмета — чарчэнне; тэхніка-канструктарская дзейнасць як магчымы варыянт прафесіянальнага навучання).

У працэсе работы па стварэнні стандартаў вельмі важна правільна вызначыць месца кожнага прадмета ў сістэме навуковых ведаў. Калі кожная навучальная дысцыпліна будзе разглядацца як пэўная частка больш шырокай адукацыйнай вобласці, да якой яна належыць, тады перспектывы пераадолення многапрадметнасці і стварэння інтэграваных курсаў стануць болей рэальнымі.

Стандартызацыя навучання прадугледжвае ўвядзенне новых паняццяў — "адукацыйная вобласць" і "вучэбны элемент", якія ўвойдуць у сістэму стандартаў як структурныя адзінкі.

Адукацыйная вобласць — гэта найбольшая структурная адзінка ў сістэме стандартаў, якая па сваім аб'ёме меншая, чым прадметны цыкл, але большая, чым прадмет. Асноўнае яе прызначэнне — прыблізіць змест школьнага наменклатурнага саставу прадметаў да навуковага. У склад адукацыйнай вобласці ўваходзяць наступныя структурныя адзінкі: прадмет, раздзел прадмета, тэма раздзела, вучэбны элемент.

Школьны прадмет — найбольш буйная частка адукацыйнай вобласці, якая або з'яўляецца яе ядром (алгебра ў складзе адукацыйнай вобласці "матэматыка"), або з'яўляецца самастойнай часткай адукацыйнай вобласці (музыка і спевы ў складзе адукацыйнай вобласці "мастацтва"), або мае тую ж назву, што і адукацыйная вобласць (фізічная культура). Але ў апошнім выпадку нельга ставіць знак роўнасці паміж адукацыйнай вобласцю і прадметам. Аб'ём навуковай інфармацыі ў адукацыйнай вобласці павінен быць большым, чым той, які прапануецца вучням для абавязковага навучання.

Раздзел школьнага прадмета (або курса) — гэта трэцяя па ліку структурная адзінка стандартызацыі. Каб вытрымаць паслядоўнасць пры размеркаванні праграмнага матэрыялу, у стандартах адукацыйных абласцей павінны быць канкрэтна названы ўсе раздзелы прадмета (або курса).

Чацвёртая структурная адзінка стандарту — тэма як састаўная частка раздзела таго ці іншага прадмета. Тэрмін "тэма" уведзены ва ўжытак вельмі даўно, і ён не патрабуе падрабязнай інтэрпрэтацыі. У стандарце няма неабходнасці раскрываць змест кожнай тэмы, называць яе падтэмы або рабіць пералік аб'ектаў вывучэння. Аднак у стандарце павінен быць пералік тэм кожнага раздзела — канкрэтна ва ўсіх ступенях навучання.

Пятая, самая невялікая структурная адзінка — вучэбны элемент. Вучэбны элемент уяўляе сабой канкрэтны аб'ект засваення, у якасці якога могуць быць паняцце, падзея, аперацыйнае або дзейнаснае ўменне, метад дзейнасці. З пункту гледжання вымярэння стандартаў вучэбны элемент — гэта найменшы па аб'ёму інфармацыі аб'ект засваення. Паколькі часовыя стандарты будуць ствараюца з апорай на існуючы змест адукацыі, то пры распрацоўцы або ўдакладненні праграм неабходна будзе дэталёва прааналізаваць лагічную структуру вучэбных элементаў кожнага прадмета, абмежаваць іх колькасць у адпаведнасці з мэтамі навучання і ўзроставымі магчымасцямі вучняў.

Дакладны ўлік колькасці вучэбных элементаў у кожнай тэме, мінімізацыя іх складанасці і адбор элементаў з мэтай фарміравання базіснага ядра адукацыі — гэта вельмі складаны і найбольш адказны этап стандартызацыі навучання.

## III. Патрабаванні да ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў

Кожны стандарт утрымлівае ў сабе мэту вывучэння канкрэтнага прадмета або курса і адначасова — вынік навучальнай дзейнасці, які заўсёды трэба супастаўляць з мэтай навучання. Стандарт павінен забяспечыць гарантаваны базісны ўзровень агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі па кожнаму прадмету, стварыць трывалую арганізацыйную аснову ў навучальным працэсе.

Пры вызначэнні агульных падыходаў да стандартызацыі агульнай сярэдняй адукацыі важна не дапусціць распаўсюджання стандартаў на тыя віды дзейнасці ў рамках школы, якія паспяхова могуць рэгламентавацца іншымі нарматыўнымі дакументамі. Рамкі адукацыйных стандартаў, асабліва на пачатковым этапе іх стварэння, павінны быць гранічна звужанымі, пры гэтым, вызначаючы мяжу паміж абавязковым і неабавязковым, трэба рашуча адмежавацца ад усяго таго, што не паддаецца вымярэнню, памятаючы элементарныя, але прынцыпова важныя патрабаванні:

— аснову стандартаў павінны складаць толькі тыя тэарэтычныя і практычныя напрацоўкі, якія эксперыментальна правераны і адпавядаюць мэтам падрыхтоўкі навучэнцаў да будучай спецыялізацыі і практычнай дзейнасці;

— асноўны аб'ект стандартызацыі — змест і вынікі навучальнага працэсу; спробы тэарэтычнага абгрунтавання стандартызацыі выхавання і развіцця школьнікаў не маюць пад сабой заканадаўчай асновы, паколькі ўвядзенне нарматываў у сферы выхавання і развіцця школьнікаў будзе несумяшчальным з прынцыпамі гуманізацыі і дэмакратызацыі адукацыі;

— зместам стандарту можа быць толькі тое, што падлягае колькаснаму вымярэнню і можа атрымаць ацэнку якасці.

Стандарт як метадалагічны дакумент, на аснове якога будуць распрацоўвацца праграмы навучання па кожнаму прадмету, найбольш дэталёва будзе распрацоўвацца ў межах адукацыйнай вобласці.

Ва ўсіх стандартах асобных прадметаў, як таго вымагае рознаўзроўневая сістэма адукацыі, рэалізуецца ідэя двух узроўняў патрабаванняў да агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі вучняў.

Першы ўзровень — гэта базісны ўзровень абавязковай для ўсіх падрыхтоўкі, які вызначае ніжнюю дапушчальную мяжу вынікаў адукацыі па прадмету. Гэта і ёсць той абавязковы для кожнага вучня мінімум, ніжэй якога апускацца нельга.

Другі ўзровень — павышаны. Ён вызначае той аб'ём навучальнага матэрыялу, які можа забяспечыць школа. Гэты ўзровень дае канкрэтнае ўяўленне аб жадаемай падрыхтоўцы добра паспяваючага вучня, адначасова ў стандарце вызначаюцца абавязковыя патрабаванні, якія павінны адпавядаць зместу павышанага ўзроўню падрыхтоўкі па данаму прадмету.

Стандарты павінны вызначыць для базіснага і павышанага варыянтаў праграм, на якім узроўні (эмпірычна-апісальным ці навуковым) уводзяцца асноўныя паняцці і заканамернасці і якім павінен быць узровень валодання імі. Належнае месца павінна быць адведзена выпрацоўцы аперацыйных і дзейнасных уменняў.

У адпаведнасці з патрабаваннямі стандартаў пачнецца распрацоўка школьных праграм. Пры гэтым складальнікі праграм павінны мець на ўвазе, што і ў межах базіснага ядра кожны раздзел праграмы можа мець свой унутраны (магчыма, і невялікі) рэзерв рабочага часу, які дасць магчымасць творча працуючаму настаўніку або паглыбіць адну з апорных тэм навучальнага прадмета, або ўвесці новую тэму з улікам мясцовых умоў і ўзроўню падрыхтоўкі школьнікаў, або выкарыстаць гэты рэзерв для нейкай практычнай работы. Безумоўна, дадатковы матэрыял не павінен быць абавязковым для кожнага вучня, але для тых (асабліва ў другой ступені навучання), чыя дапытлівая думка не хоча абмяжоўвацца абавязковым мінімумам, новая цікавая інфармацыя не толькі створыць нейкі запас трываласці агульнаадукацыйных ведаў, але і, напэўна, дасць імпульс да таго, каб вывучаць любімы прадмет на болей высокім узроўні. Наяўнасць рэзервных гадзін адкрые дарогу для творчага пошуку, у выніку якога пры адзіным для ўсіх школ базісным мінімуме могуць узнікнуць варыятыўныя аўтарскія праграмы.

Прымаючы пад увагу права выбару кожным вучнем свайго індывідуальнага шляху развіцця, усе праграмы 9—11 класаў будуць распрацоўвацца на базісным і павышаным узроўнях. Вызначальным дакументам для школ з паглыбленым вывучэннем паасобных прадметаў (у мэтах заахвочвання творчых пошукаў) будзе не стандарт, а школьная праграма.

Чарговая задача на шляху да вызначэння ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі школьнікаў — перагляд аб'ёму навучальнай нагрузкі, якую зараз нельга прызнаць аптымальнай. Агульныя падыходы да скарачэння нагрузкі ва ўсіх ступенях навучання могуць быць розныя ў залежнасці ад зместу адукацыі. Прымаючы пад увагу патрабаванні да зместу рознаўзроўневага навучання, да ліку першачарговых мер можна аднесці наступныя:

— перагледзець існуючую наменклатуру прадметаў; вылучыць тыя, якія не ўваходзяць у фундаментальную аснову зместу агульнай сярэдняй адукацыі, і перанесці іх у варыятыўную частку навучальнага плана;

— не ўводзіць на базісным узроўні навучання новыя прадметы ў 10—11 класах, а планаваць увядзенне іх у гэтых класах за лік гадзін, адведзеных на профільнае навучанне;

— скараціць колькасць прадметаў, рэкамендаваных для вывучэння на павышаным і паглыбленым узроўнях навучання;

— пры распрацоўцы стандартаў адукацыйных абласцей болей дакладна размежаваць навучальны матэрыял паміж другой і трэцяй ступенямі навучання, не дапусціць дубліравання і неабгрунтаванага пераносу матэрыялу асноўнай школы ў сярэднюю;

— дэталёва прадумаць сістэму дамашніх заданняў; спыніць практыку пераносу ў сшыткі вучняў тых схем і ілюстрацый, якія маюцца ў падручніках; пры адборы заданняў перавагу аддаваць тым, якія накіраваны на развіццё аперацыйных уменняў; павысіць ролю вусных дамашніх заданняў.

У перспектыве канчатковае вырашэнне праблемы ліквідацыі агульнай перагрузкі школьнікаў стане магчымым тады, калі школа пяройдзе на 12-гадовы тэрмін навучання.

## IV. Кантроль за выкананнем патрабаванняў стандарту

Засваенне навучальнага матэрыялу розных прадметаў павінна забяспечыць дасягненне кожным школьнікам абавязковага ўзроўню падрыхтоўкі, вызначанага ў адукацыйных стандартах. Аднак ва ўмовах дыферэнцаванага навучання паняцце "абавязковы ўзровень" успрымаецца неадназначна. Для тых выпускнікоў школ, хто пажадае прадоўжыць вучобу ў тэхнікуме або ПТВ, у якасці абавязковага будзе першы (базісны) узровень адукацыі, а тая катэгорыя выпускнікоў, якая вырашыла трымаць уступныя экзамены ў ВНУ, павінна арыентавацца на другі або павышаны ўзровень адукацыйнай падрыхтоўкі. Такім чынам, у другім выпадку аб'ём паняцця "абавязковы ўзровень" будзе ў пэўнай меры шырэйшы, чым у першым. Стандарты павінны вызначыць дакладныя межы паміж гэтымі двума ўзроўнямі. Вопыт работы па дыферэнцаваным навучанні падказвае, што немэтазгодна занадта рэзка аддаляць базісны і павышаны ўзроўні адукацыі. Калі праграмы і падручнікі будуць распрацаваны з улікам першага і другога ўзроўняў адукацыі, то толькі пры такой умове выбар узроўню навучання стане сапраўды свабодным.

Важна, каб кожны настаўнік зразумеў і адчуў прынцыповую педагагічную ўстаноўку: выбар узроўню падрыхтоўкі па прадмету даецца вучню, а не настаўніку. У сакавіку 1993 года Міністэрства адукацыі растлумачвала, што ва ўмовах рознаўзроўневай адукацыі "паспяхова вытрымаць уступныя экзамены ў ВНУ зможа толькі той, хто валодае ведамі па адпаведным прадмеце не менш, як на другім (профільным) узроўні ("Настаўніцкая газета", 20 сакавіка 1993 г.). Гэта азначае, што з увядзеннем рознаўзроўневай адукацыі змяняюцца падыходы да мэтавых установак навучання. Зараз перад кожным настаўнікам (незалежна ад таго, ёсць у школе профільныя класы ці іх няма) пастаўлена двайная мэта: дабівацца дасягнення ўсімі вучнямі ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі і адначасова ствараць умовы для засваення навучальнага матэрыялу на болей высокім узроўні. Складанасць у тым, што на ўступных экзаменах у ВНУ праводзіцца праверка ўзроўню падрыхтоўкі абітурыентаў па прадметах розных школьных профіляў, а профільныя класы не забяспечваюць павышаны ўзровень падрыхтоўкі па прадметах розных цыклаў. Таму па некаторых прадметах выпускнікам школ прыйдзецца рыхтавацца да ўступных экзаменаў у ВНУ на павышаным узроўні шляхам самападрыхтоўкі. У сувязі з гэтым у трэцяй ступені навучання трэба ўсімі мерамі заахвочваць развіццё навыкаў самастойнай работы з падручнікам, навучальнымі дапаможнікамі і дадатковай літаратурай. А для гэтага патрэбна, каб у школах былі ўсе неабходныя праграмы, падручнікі і іншая літаратура; каб настаўнікі маглі даць кансультацыі для тых вучняў, якія пажадаюць здаваць экзамены на павышаным узроўні.

Паспяховай навучальнай рабоце старшакласнікаў павінен садзейнічаць рэгулярны кантроль за ўзроўнем іх абавязковай падрыхтоўкі.

Стандартызацыя арыентуе на тое, каб бягучы і тэматычны кантроль за навучальнай дзейнасцю школьнікаў замацоўваўся выніковай праверкай дасягнення кожным вучнем патрабаванняў дзяржаўнага стандарту.

Праверка дасягнення дзяржаўнага стандарту праводзіцца з дапамогай спецыяльна распрацаванай сістэмы заданняў-вымяральнікаў, якія павінны адпавядаць патрабаванням да ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў. Заданні, што ўваходзяць у праверачную работу, маюць на мэце кантроль за вынікамі засваення абавязковага зместу стандарту: навуковых тэорый, заканамернасцей, паняццяў. Побач з гэтым правяраюцца ўзровень падрыхтоўкі вучняў да розных відаў навучальнай дзейнасці, а таксама агульнаінтэлектуальныя і агульнавучэбныя веды і ўменні. Вымяральнікі стандартаў забяспечваюць мінімальную затрату часу на правядзенне кантролю, адначасовую праверку ведаў у многіх вучняў і адназначнасць ацэнкі вынікаў навучання.

У якасці вымяральнікаў стандарту могуць быць прапанаваны:

— асобныя заданні з гатовымі адказамі, з ліку якіх трэба выбраць адзін — правільны;

— заданні са свабодным адказам, калі вучань мае магчымасць, карыстаючыся абсталяваннем урока і нагляднымі дапаможнікамі, знайсці патрэбныя звесткі для адказу на пастаўленае пытанне;

— заданні, звязаныя з рашэннем абавязковых тыпаў задач і заданні для праверкі практычных уменняў (напрыклад, па фізіцы, біялогіі);

— пісьмовыя работы пасля завяршэння вывучэння пэўнага курса, кантрольныя работы па выніках паўгоддзя або навучальнага года;

— эксперыментальныя заданні (фізіка, хімія, біялогія);

— вусныя і пісьмовыя залікі і экзамены;

— тэсты як сродак аб'ектыўнага кантролю (тэсты на апазнаванне і выбар правільнага адказу; тэсты-тыпавыя задачы з выкарыстаннем пэўных алгарытмаў дзейнасці; тэсты для нетыповых сітуацый, калі вядома мэта дзеяння, а раней усвоеныя правілы дзеяння трэба самастойна адшукаць і выкарыстаць; тэсты-праблемы, разлічаныя на выяўленне даследчых магчымасцей, неабходных для атрымання новай інфармацыі і інш.).

Стандарты арыентуюць школу на рэгулярную праверку ўзроўню абавязковай падрыхтоўкі вучняў пры заканчэнні кожнай ступені навучання. Змест праверачных работ не павінен выходзіць за межы таго, што вывучалася ў школе. Кантроль арганізуецца з такім разлікам, каб забяспечыць адначасовую праверку ведаў у многіх вучняў. У сувязі з гэтым вельмі істотна давесці да ведама вучняў не толькі змест заданняў, але і патрабаванні да іх выканання. Так, заданні са свабодным адказам могуць ацэньвацца па прынцыпе "выканаў", "не выканаў". Пры правядзенні заліку замест бальнай сістэмы прымяняюцца ацэнкі "залічана" або "не залічана". У выпадку адмоўнага выніку для вучня прадугледжана магчымасць пераздачы заліку.

Канцэпцыя зыходзіць з таго, што існуючая ў сучаснай школе лічбавая сістэма ацэнак даўно страціла свой першапачатковы змест. Калі зараз у цэнтры ўвагі асоба вучня, то і сістэма ацэнак павінна мець другое напаўненне, дастойнае асобы будучага грамадзяніна дзяржавы.

Стандартызацыя створыць спрыяльныя ўмовы для ўдакладнення зместу агульнай сярэдняй адукацыі, скарачэння навучальнай нагрузкі, фарміравання станоўчых матываў навучання і станаўлення асобы школьніка.

**Канцэпцыю стандартаў агульнай сярэдняй адукацыі распрацавалі:**
**Г.М.ПЯТРОЎСКІ —**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук,**

**М.С.КРОТ —**
**кандыдат педагагічных навук.**

